8 ліпеня 2016 | № 27 (492)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Выбары: што атрымаем за нашы грошы?**
стар. 4

5 **«Я ЎЖО НЕ ВЕРУ, ШТО БУДУЦЬ КАЛІ ЛЕПШЫЯ ЧАСЫ...»**

Валянціне Уладзіміраўне Быкавай 7 ліпеня споўнілася б 90 гадоў. Яна не дажыла да юбілею ўсяго некалькі дзён. 4 ліпеня а 8-й раніцы яна адышла ў лепшы свет

6–7 **КАМУ ПАТРЭБНЫ БЕСПРЫТУЛЬНЫЯ**

«Людзі без пэўнага месца жыхарства» — за гэтым тэрмінам хаваюцца зламаныя лёсы. Падаецца, і дзяржаве, і грамадству ўсё роўна, адкуль яны бяруцца і куды знікаюць...

8 **АДЭСКІ ТРАМПЛІН СААКАШВІЛІ**



Пра амбіцыі экс-прэзідэнта Грузіі і яго спадчыну ў Адэсе распавядае Андрэй Ішчанка, мясцовы актывіст прафсаюзу «Захіст праці»

10–11 **ЯК ГЭТА БЫЛО: ВЫБАРЫ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА**

Большасць грамадзян пры абмеркаванні праекта Асноўнага закона ў сваіх лістах на адрас Канстытуцыйнай камісіі выказвалася супраць пасады прэзідэнта



# Змарнавалі грошыкі

## Адстаўка Кірыла Рудага можа разглядацца як правал Усебеларускага народнага сходу



Сяргей ПУЛЬША

Усіх, хто спадзяваўся на нейкія эканамічныя рэформы, спасцігла моцнае расчараванне. Дарадца Аляксандра Лукашэнкі па эканамічных пытаннях, найбольшы «рэфарматар» у яго камандзе Кірыла Руды быў выпраўлены паслом у Кітай. Бачна, менавіта ён будзе асвойваць кітайскія крэдытныя лініі.

Гэтая падзея, на фоне прайшоўшага Усебеларускага сходу, досыць знакавая. Руды знакаміты тым, што знайшоў неабходныя фармулёўкі, каб пераканаць свайго патрона ў неабходнасці хоць маленькіх, але рэформаў. «Мы праводзім рэформы, не называючы гэта рэформамі», — знакамітае выслоўе Рудага.

У той жа час перад краінай на Усебеларускім народным сходзе паставілі каласальныя мэты. Эканоміка краіны за 2016–2020 гады павінна вырасці на 12–15%, у тым ліку за гэты год на 0,3%, а за наступны год — мінімум на 1,5%. Гэта нам трэба дамагчыся пяцікратнага (!) росту ВУП. І ўсяго толькі за год.

У прынцыпе, нічога недасяжнага ў гэтым няма. Кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Пітэр Долман сказаў журналістам, што эканамічны рост у Беларусі можа перавысіць і 4,5% за год. Аднак гэтага рэальна дамагчыся, калі мы пачнём сапраўдныя структурныя рэформы ў эканоміцы. Якімі, згодна логіцы Усебеларускага сходу, нават не патыхае.

Звальненне Рудага з пасады эканамічнага дарадцы і прызначэнне на адказны дыпламатычны фронт якраз сведчыць пра тое, што сістэмных структурных рэформаў Беларусь не дачакаецца. Сам Руды на Кастрычніцкім эканамічным форуме ў мінулым годзе казаў пра ўмовы правядзення рэформ. Па-першае, калі рэформаў патрабуе грамадства. Па-другое, калі на рэформы згодны «сярэдні клас». І па-трэцяе — запыт на рэформы з боку правячай эліты.

Што тычыцца грамадства, то ягонага жадання рэформаў не заўважае толькі кіраўнік дзяржавы. Ён заўсёды кажа: «Мы гатовыя на рэформы, але грамадства не гатовае». Між тым, згодна чэрвеньскаму маніторынгу грамадскай думкі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), 65,5% апытаных кажуць, што важней змена існага становішча, чым яго захаванне. За захаванне выказаліся толькі 25,5% рэспандэнтаў. 57% лічаць, што краіна развіваецца ў цэлым у няслушным напрамку, наяўнасць крызісу ў краіне прызнаюць 87,8% беларусаў.

Пра запыты рэформаў ад «сярэдняга класа» лепш памаўчым, бо для гэтага патрэбны «сярэдні клас». У Беларусі ён, як мінімум, не сфармаваны, а як максімум, перманентна пасыпаецца дустам у выглядзе абмежаванняў для прадпрымальніцкай дзейнасці альбо гучных пасадак бізнесменаў. Што ж тычыцца «жадання рэформаў з боку элітаў», то з сыходам Рудага з тых рэфарматараў, якія застаюцца ў краіне, значна абмяжоўваецца «доступ да цела, якое прымае рашэнні».

Пакуль не вядома, хто зойме пасаду Рудага, аднак, гледзячы па ўсім, гэта ўжо не будзе чалавек, які выступае з рэвалюцыйнымі ідэямі і разрывае «зону камфорту» кіраўніка дзяржавы.

На Усебеларускім сходзе Лукашэнка казаў пра рэформы, адзначыўшы: «А хто будзе гэтым займацца?» Нібыта, нават для правядзення «правераных часам і досведам» рэформаў патрэбныя адмыслоўцы, якія ведаюць, як і што рабіць. Маўляў, нават калі не трэба вынаходзіць ровар, трэба той, хто ўмее на ім ездзіць.




**Наяўнасць крызісу ў краіне прызнаюць 87,8% беларусаў**

І адразу ж выпраўляе гэтага «раварыста» ў Кітай.

Адкуль жа ўзяцца ў краіне ўхваленаму на ўсебеларускім хурале эканамічнаму росту? І яшчэ без рэформаў? Ва ўрада ёсць два варыянты: рэальны і фантастычны. Фантастычны варыянт — гэта калі кошт нафты на сусветным рынку стабілізуецца на ўзроўні 45 долараў за барэль, сярэднегадавы абменны курс складзе 70 расійскіх рублёў за долар, а ВУП Расіі пачне расці прынамсі на 1%.

І рэалістычны варыянт: калі да нас прыляцяць мігранты з Марса і пабудуюць нам квітнеючую дзяржаву. Таму што больш рэалістычны? Таму што на рост расійскай эканомікі не спадзяюцца нават эканамісты расійскага «Сбербанка», якія і пры коште нафты ў 40 долараў за барэль прагназуюць спад ВУП нашага асноўнага гандлёвага партнёра на 0,7%. Да таго ж упарта ходзяць чуткі, што Расія плануе адмяніць экспартную пошліну на нафту, замяніўшы яе ўнутраным падаткам на здабычу карысных выкапняў. Нагадаем, што дзякуючы гэтай экспартнай пошліне мы атрымліваем «лішнія» $1–1,5 мільярда на год.

Такім чынам, даручэнні Усебеларускага народнага сходу ўжо можна лічыць праваленымі. Як кажуць незалежныя эканамісты, крызіс яшчэ толькі пачынаецца. А ўлада і не думае тэрмінова на яго рэагаваць: маўляў, адсядзімся, галоўнае — стабільнасць. І пужае нас негатыўнымі наступствамі рэформ у выглядзе зніжэння ўзроўню жыцця, росту беспрацоўя, інфляцыі, скарачэння сацыяльнай падтрымкі насельніцтва і гэтак далей.

Але, калі азірнуцца навокал, усе гэтыя праявы крызісу мы ўжо бачым і зараз — толькі без рэформаў. І далей без іх будзе яшчэ горш.

# На Жамчужнага склалі рапарт за кнігі Алексіевіч

Новы ЧАС

**Пра гэта палітвязень паведаміў у апошнім лісце да грамадскай актывісткі Ганны Шапуцькі.**

«17 чэрвеня мяне без усялякіх прычын паставілі на ўлік як экстрэміста. Я за 8 месяцаў у ІК-14 не меў ніводнага парушэння рэжыму ўтрымання, ніводнай заўвагі. Ніколі ў жыцці не ўдзельнічаў у несанкцыянаваных мерапрыемствах, аб чым зараз шкадую. Сябры паведамілі, што на мяне быў рапарт ад «операў» з абвінавачваннем у распаўсюджванні сярод вязняў экстрэмісцкай літаратуры. Гэта 2 кнігі Святланы Алексіевіч. «Время секонд-хенд» і «Цинковые мальчики». Пасля такой рэкламы на гэтыя шэдэўры падвоіцца чарга з жадаючых іх пачытаць вязняў»,— напісаў Міхаіл Жамчужны. Вязень апратэставаў гэтае парушэнне, якое, на яго думку, з'яўляецца незаконным і надуманым.

Таксама Міхаіл Жамчужны піша пра праблемы з ліставаннем: «Мае лісты ідуць доўга, бо са мной сталі такім чынам змагацца «оперы». Спачатку лісты ідуць цэнзару, затым у операддзел, затым мяне выклікаюць, каб я даў тлумачэнні пра іх змест, затым зноў цэнзару, але іншаму, ад яго зноў іншаму оперу, ён мяне зноў выклікае на тлумачэнні, пасля ідзе на выходныя ці ў адпачынак і г.д. Таму ліставанне так зацягваецца».

Нагадаем, заснавальнік «Платформ інавэйш» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных арт. 376 (часткі 1 і 2), ч.5 арт. 16, арт. 375 (частка 1) і арт. 431 (часткі 1 і 2): падбухторванні да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу; у незаконным набыцці і збыце спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, у тым ліку — паўторна; у дачы хабару і дачы хабару паўторна.

# Шаснаццаць гадоў без Дзмітрыя Завадскага

**Журналіст Дзмітрый Завадскі знік пры нявысветленых абставінах 7 ліпеня 2000 года.**

За гэтыя гады праваахоўныя органы Беларусі так і не адказалі на пытанні, хто быў арганізатарам і выканаўцам гэтага злачынства і што насамрэч здарылася з Дзмітрыем.

Па факце знікнення Дзмітрыя была распачата крымінальная справа па артыкуле «забойства», аднак потым абвінавачанне было перакваліфікавана на «выкраданне і незаконнае пазбаўленне чалавека волі».

14 сакавіка 2002 года Мінскі абласны суд прызнаў вінаватымі ў выкраданні Завадскага афіцэраў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка (асуджаныя на пажыццёвае зняволенне), былога курсанта Акадэміі МУС Аляксея Гуза (асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі), а таксама грамадзяніна Сяргея Савушкіна (ужо выйшаў на волю).

Паводле абвінавачання, матывам злачынства сталася помста: маўляў, Завадскі публічна абвінавацiў Ігнатовіча ва ўдзеле ў вайне на баку чачэнскіх байцоў. Аднак ніхто з асуджаных не прызнаў сваёй віны ні па адным з эпізодаў.




27 лістапада 2003 года суд Фрунзенскага раёна Мінска прызнаў зніклага журналіста памерлым. Між тым, цела Дзмітрыя Завадскага дагэтуль не знойдзена.

Расследаванне па справе аб знікненні Завадскага некальки разоў аднаўлялася — «у сувязі з наноў адкрытымі абставінамі». І прыпынялася зноў — са спасылкай на «необнаружение безвестно исчезнувшего лица», аднак выніку не прынесла.

Вясной 2016 года былая жонка зніклага Святлана Завадская як пацярпелая па справе аб знікненні Завадскага двойчы звярталася ў Следчы камітэт з хадайніцтвам пра атрыманне інфармацыі па крымінальнай справе і копій шэрагу працэсуальных дакументаў.

Святлана прасіла Следчы камітэт паведаміць, ці аднаўлялася папярэдняе расследаванне справы, і калі не, дык па якіх прычынах. Таксама яна прасіла выдаць ёй копіі пастановы пра распачацце крымінальнай справы, вылучэнне матэрыялаў у асобную вытворчасць і прыпыненне вытворчасці па крымінальнай справе. Яна ўказала, што копіі працэсуальных дакументаў ёй неабходны для абскарджання дзеяння (бяздзеяння) органа крымінальнага пераследу.

У адказ Завадскай паведамілі, што вытворчасць па крымінальнай справе прыпыненая, і што закон не прадугледжвае права пацярпелага атрымліваць копіі названых працэсуальных дакументаў.

Грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» па-ранейшаму патрабуе ад кампетэнтных органаў поўнага расследавання абставін знікнення Дзмітрыя Завадскага.

Заклікаем прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці не забываць пра справу Завадскага і не даваць забыць пра яе ўладам да таго часу, пакуль не даведаемся ўсёй праўды пра гэтае злачынства, пакуль не будуць названыя імёны яго натхняльнікаў і выканаўцаў.

**Паводле БАЖ**

# Колькі каштуе пакутлівае жыццё

Марат ГАРАВЫ

Калегія па грамадзянскіх справах Мінгарсуда 4 ліпеня падтрымала рашэнне суда Першамайскага раёна сталіцы, які спагнаў на карысць мінчанкі Тамары Грыневіч з палкоўніка ў адстаўцы Сяргей Калганава 15 000 рублёў (новых) у якасці матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды і за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў падчас ДТЗ.

Разам з тым, калегія не задаволіла скаргу ваеннага пенсіянера Сяргея Калганава, які прасіў суд знізіць памер матэрыяльнай кампенсацыі да 5 000 рублёў (новых). Аднак і адмовіла Грыневіч у павелічэнні кампенсацыі да 90 тысяч.

Вечарам 17 кастрычніка 2011 года Калганаў, які кіраваў легкавіком «Рэно Меган», на пешаходным пераходзе каля вёскі Матарова Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці збіў Тамару Грыневіч.

Толькі дзякуючы настойлівасці Грыневіч папярэдняе следства, што доўжылася больш за тры гады, было завершана ў 2015 годзе. Справа была перададзена ў суд. Аднак судовага следства не адбылося, бо палкоўнік у адстаўцы быў амніставаны.

Пасля ДТЗ Грыневіч перанесла сем складаных аперацый, цалкам страціла працаздольнасць і атрымала інваліднасць другой групы. Раней яна не мела праблем са здароўем, выконвала любую фізічную працу, вырошчвала гародніну, удзельнічала ў спартовых і культурніцкіх мерапрыемствах вытворчага аб'яднання «Мінскводаканал».

Зараз Тамара нават не можа сама сябе абслугоўваць і выконваць самыя простыя хатнія справы — яна вельмі кепска бачыць, дрэнна чуе, да таго ж нічога не можа рабіць правай рукой.

Вось чаму Тамара Грыневіч, пенсія па інваліднасці якой троху вышэй за 250 рублёў (2,5 мільёна рублёў раней), прасіла суд павялічыць памер матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды ў шэсць разоў — з 15 да 90 тысяч рублёў.

У каментары НЧ юрыстка Тамара Сяргей адзначыла, што пры разглядзе дадзенай справы суд, у першую чаргу, кіраваўся інтарэсамі не пацярпелай жанчыны, а адказчыка. Праваабаронца назвала «смяхотным» памер матэрыяльнай кампенсацыі ў 15 000 руб для вінотніка ДТЗ, якое нашмат скараціла жыццё Грыневіч і зрабіла астатнія гады яго пакутлівымі для пацярпелай. Трэба ўлічыць, што Калганаў атрымлівае пенсію ў 880 рублёў, якая нашмат пераўзыходзіць сярэдні памер пенсіі па краіне. Апроч таго, мужчына з'яўляецца ўласнікам трохпакаёўкі ў сталіцы і аўтамашыны. Вось чаму суд павінен быў задаволіць іск Грыневіч, каб хоць часткова кампенсаваць шкоду, нанесеную жанчыне, лічыць Тамара Сяргей.

# У спёку 12 дамоў засталіся без вады

Зінаіда ЦІМОШАК

**Жыхары вёскі Падзерскія Агароднікі Слуцкага раёна ў самую спёку апынуліся без вады ў кранах.**

На працягу многіх гадоў вада, за якую, аднак, ніхто не плаціў, спраўна падавалася ў дамы на вуліцы Садовая і Нова-Садовая з водаправоднай вежы, размешчанай на тэрыторыі малочнага комплексу ААТ «Казловічы-Агра».

Але раптам 2 ліпеня, у самую спёку, жыхары вуліцы Садовая засталася без вады. Пасля высвятлення прычын адключэння вады вяскоўцы даведаліся, што вада не падаецца, паколькі іх водапровод пабудаваны таемна і нелегальна.

Вольга Прахарэнка набыла дом у Падзерскіх Агародніках восенню 2015 года. Тады ж яна спрабавала знайсці ўладальнікаў водапровода, каб заключыць дамову і штомесяц плаціць грошы.

— Дом я купіла ў тым ліку з-за водапровода, — гаворыць Вольга. — Мне заставалася толькі ўкласці грошы і падключыцца. Крыху насцярожыла тое, што я не змагла знайсці ўладальніка водапровода. Суседзі цьмяна гаварылі пра нейкую фірму, якая гадоў 5 таму збудавала водапровод і якая, быццам, павінна была перадаць яго на баланс «КУП «Слуцкая ЖКГ». Ніякіх канкрэтных дадзеных пра фірму не было. Супрацоўнікі «фірмы» прапаноўвалі людзям купіць неабходнае абсталяванне і падключылі іх за невысокую плату. Грошы былі здадзены, але ніякіх квітанцый сяляне не атрымалі.

Калі б гаворка ішла пра 5–10 метраў пракладзеных труб — было б зразумела. Але ад фермы да вёскі даўжыня водапровода складае прыкладна 600 метраў, ды яшчэ па вуліцы трубы пракладзены на даўжыню 1000 метраў. Хтосьці ж гэта ўсё пракладаў, значыць, павінен быць і гаспадар?

Па словах Галіны Мельнік, якая працуе паштальёнам у горадзе, некалькі гадоў таму каля яе дома працавалі супрацоўнікі газавай службы і выпадкова парэзалі трубу водапровода.

— Рабочыя сказалі, што па іх дакументацыі тут ніякага водапровода няма, — паведаміла Галіна. — Але пасля пашкодзілі трубу. Мы ж усё хочам, каб водапровод існаваў законна. Я пра гэта гаварыла тым рабочым, якія мне прапанавалі купіць трубы і краны, каб падвесці ваду ў хату. «Купіце трубы і кранікі, мы вас далучым, і ў вас будзе вада, — казалі яны. — А праз тыдзень да вас прыедзе ЖКГ і ўсё аформіць».

На суседняй вуліцы Нова-Садовая знаходзіцца дом галоўнага інжынера ЖКГ. Але Анатоль Фёдаравіч Мельнік адмовіўся з намі размаўляць.

А вось інжынер ААТ «Казловічы-агра» Павел Башко паведаміў, што ён асабіста адключыў падачу вады для людзей, бо вада патрэбна для кароў і цялят.

— Я ўжо не раз папярэджваў, што вада для іх калісьці скончыцца,— адказаў інжынер.— Яны ўрэзаліся ў водапровод незаконна. Хай заключаць дамовы і паставяць лічыльнікі.

Пытанне, чаму 6 гадоў ніхто не звярнуў увагі на такую незаконнасць, і вада паступала ў людскія дамы, засталося без адказу.

Заключыць дамовы вяскоўцы не супраць. Толькі з кім заключаць дамову?

Па словах жыхароў вёскі Анатоля Шушко і Мікалая Драбушэвіча, яны некалькі разоў наведвалі кантору сельскагаспадарчага прадпрыемства «Казловічы-Агра» і прапаноўвалі браць грошы з людзей за ваду.

— У канторы нам адказалі, што водапровод не належыць сельскагаспадарчаму прадпрыемству, і яны не могуць збіраць з нас плату, і што нам патрэбна звяртацца ў ЖКГ. ЖКГ ж робіць выгляд, што не мае дачынення да гэтай праблемы.

***P.S.*** *Праз дзень пасля публікацыі гэтай нататкі на нашым сайце вада ў людзей з'явілася. Ці то дождж дапамог, ці званок у райвыканкам нашай журналісткі. Але людзі збіраюцца ісці да канца і высветліць нарэшце, каму ж належыць гэты водапровод, каму трэба плаціць грошы і з каго пасля патрабаваць.*

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дэнамінаваліся

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Безумоўна, галоўнай сенсацыяй мінулага тыдня і падзеяй, што найбольш абмяркоўвалася, у краіне сталі новыя грошы. Шмат хто пабачыў іх толькі ў панядзелак, 4 ліпеня.**



Фота www.kp.by

Мы неаднаразова пісалі, што беларуская дэнамінацыя стане раем для нумізматаў. Але і не падазравалі, што настолькі. Як вядома, у калекцыянераў вельмі цэняцца купюры і манеты з памылкамі. Менавіта бракаваныя грошы і выкінула насельніцтву нашае казначэйства.

Пачалося ўсё з новай купюры ў 50 рублёў. Згодна з новымі арфаграфічнымі правіламі, трэба пісаць «пяцьдзЯсят рублёў» — з-за гэтага перадрукоўваліся нават «старыя» пяцідзясяткі. Але на новай купюры, якая аддрукавана ў 2009-м, надпіс па старых правілах — «пяцьдзЕсят». Як паведаміў Нацбанк, «непісьменныя» грошы будуць паступова вымацца са звароту, але толькі ў працэсе іх «старэння». Так што першая калекцыйная фішка ўжо ёсць.

Другую фішку заўважылі пільныя аматары манет. На двухрублёўках трапляецца «няправільны» надпіс «Беларусь» на рабрыне. Калі манету пакласці аверсам (гербам) уверх, на нейкіх манетах надпіс на рабрыне чытаецца нармалёва. На іншых — перакулены дагары нагамі.

Аднак у інфармацыйных матэрыялах Нацбанку не кажацца, якім бокам павінен стаяць надпіс «Беларусь». Сказана толькі, што на гурце (гурт — афіцыйнае пазначэнне рабрыны манеты) павінен быць паўтараючыся надпіс «Беларусь». І ўсё. З'яўляецца «перакуленасць» памылкай альбо адметнай асаблівасцю беларускіх двухрублёвак, невядома. Аднак некаторыя заўзятыя каментатары ўжо запанікавалі і мяркуюць, што без дадатковых тлумачэнняў Нацбанка гэтыя «асаблівыя» манеты ёсць падстава лічыць фальшыўкай.

А аднаму мінчуку пашанцавала вельмі-вельмі. У яго на гурце двухрублёўкі надпіс не «Беларусь», а «Ббларусь». Праўда, пасля дэталёвага вывучэння, выявілася, што гэта скол такім чынам змяніў літару Е, і ўладальнік манеты зняў яе з аўкцыёну.

Заўважылі грамадзяне і тое, што некаторыя купюры няроўна абрэзаныя, некаторыя — з падцёкамі, некаторыя манеты ўжо з дэфектамі. У сувязі з гэтым узнікае пытанне найперш да ўмоваў захавання гэтых грошай на складах Нацбанку. Няўжо там сапраўды дах цячэ і пацукі бегаюць?

«Узоры банкнот на прадстаўленых фотаздымках не з'яўляюцца бракаванымі. Банкноты вырабляюцца вялікімі накладамі на паліграфічным абсталяванні з улікам тэхналагічных допускаў, якія не ўплываюць на спажывецкія ўласцівасці, звязаныя з выкарыстаннем банкнот у звароце, іх апрацоўкай, у тым ліку тэхнічнымі сродкамі прыёму, пераліку і сартавання. Названыя банкноты могуць знаходзіцца ў наяўным звароце без абмежаванняў», — адказалі на ўсе прэтэнзіі ў Нацбанку.

Тое ж самае банкіры кажуць і з нагоды іржавых манет. Грошы былі выраблены ў 2008 годзе, метал, зразумела, акісляецца. На спажывецкія якасці манет гэта не ўплывае, таму іржавыя манеты будуць выводзіцца з абарачэння і замяняцца таксама па неабходнасці.

Чаго можна яшчэ чакаць ад новых грошай? З уласнага досведу — рэкорднага продажу насельніцтвам валюты ў ліпені гэтага года. У спадзевах як мага раней пабачыць новыя разліковыя білеты, грамадзяне кінуліся мяняць свае валютныя «заначкі» — асабліва ў першыя дні дэнамінацыі. У абменніках — тых, якія працавалі гэтымі днямі, — з'явіліся чэргі. А ў некаторых такіх пунктах нават з'явіліся даўно забытыя шыльды: «Беларускіх грошай няма!».

**Мы ідзем да эканамічнага крызісу сямімільнымі крокамі, апераджаючы нават самыя горшыя прагнозы больш чым у два разы**

Сапраўды, нехта мяняў грошы толькі таму, што «дзецям цікава пабачыць манеты». З аднаго боку, падтрымалі дзяржаву валютай. А з іншага — гэта азначае, што беларусам хранічна не хапае ў жыцці нечага новага, новых эмоцый, новых уражанняў. І гэта, як ні круці, прыкмета не стабільнасці, а застою.

Пакуль грамадзяне вучацца лічыць новыя грошы, прыглядаюцца да іх выгляду і паху, дзяржава таксама не спіць у шапку. Праўда, чыноўнікі памятаюць пра заяву Аляксандра Рыгоравіча «паадрываць галовы» тым, хто будзе падвышаць кошты ў сувязі з дэнамінацыяй. Таму Мінгарвыканкам знайшоў новы параўнальна сумленны спосаб ад'ёму лішніх грошай у насельніцтва.

Мінгарвыканкам проста паменшыў нарматывы спажывання цяпла ў дамах без прыбораў групавога ўліку расходу цяпла. Нарматывы фактычнага спажывання цеплавой энергіі на ацяпленне 1 кв.м жылля на красавік 2016 года зменшыліся да 0,0092 Гкал/кв.м (было 0,0152 Гкал/кв.м), а на падагрэў 1 куб.м вады, наадварот, крыху павялічаны — да 0,0754 Гкал/куб.м (было 0,0749 Гкал/куб.м). Ці звязана гэта з тым, што зараз лета, і ацяпленне ўвогуле адключанае — невядома. Як невядома і тое, ці ўзрасцуць гэтыя нарматывы ўвосень, калі пачнецца ацяпляльны сезон. Але так ці інакш, за «лішні» падагрэў давядзецца заплаціць больш.

Засмуціў нас і Белстат, які пералічыў і ўдакладніў ВУП краіны за першы квартал гэтага года. Паводле новых разлікаў, гэты ВУП знізіўся на 3,7% — супраць 3,6% у першай ацэнцы.

Дададзім, што афіцыйны прагноз беларускіх уладаў на 2016 год, зацверджаны ў снежні 2015 года, прадугледжвае рост ВУП на 0,3%. Аналітыкі расійскага «Сбербанка» прагназуюць, што па выніках 2016 года ВУП Беларусі знізіцца на 1,5%. Пакуль што мы ідзем да эканамічнага крызісу сямімільнымі крокамі, апераджаючы нават самыя горшыя прагнозы больш чым у два разы.

І яшчэ адна цікавостка — новыя грошы з'явіліся не толькі ў нас. Еўрапейскі цэнтральны банк прадставіў новую банкноту наміналам 50 еўра, якая ўвойдзе ў абарачэнне з 4 красавіка 2017 года.

Новая банкнота ўключае ў сябе акно-партрэт — інавацыйную тэхналогію абароны. Калі паднесці купюру да святла, праз празрыстае вакно бачная галаграма-партрэт Еўропы — персанажа грэчаскай міфалогіі. Той жа партрэт з'яўляецца ў вадзяным знаку. Гэтыя функцыі бяспекі дазваляюць лёгка праверыць новыя 50 еўра на сапраўднасць.

Беларускія грошы падобныя на еўра. Але да такіх навацый яшчэ не даспелі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Валянціна Быкава

**Сястра Васіля Быкава пайшла з жыцця каля 8 раніцы 4 ліпеня. 5 ліпеня яе пахавалі на могілках у вёсцы Ваўчо.**

Валянціна Быкава не дажыла тры дні да свайго 90-годдзя. 27 мая ва ўласным доме на Валянціну Уладзіміраўну невядомым зламыснікам быў здзейснены напад. У бальніцы ў жанчыны дыягнаставалі пералом запясця правай рукі, левага пляча і некалькіх рэбраў з левага боку. Потым да гэтага дадалася посттраўматычная пнеўманія. Лекары пастаянна ацэньвалі яе стан як цяжкі — перш за ўсё з-за ўзросту пацыенткі.

Пасля смерці старэйшага брата Васіля Валянціна Уладзіміраўна шмат рабіла для захавання яго памяці. Яна ліставалася з прыхільнікамі яго творчасці, сябравала з пісьменнікамі і журналістамі, неаднаразова давала інтэрв'ю, распавядаючы пра Васіля Быкава.

Калі ў Бычках стваралася мемарыяльная сядзіба-музей, яна давала парады па аднаўленні інтэр'еру бацькоўскага дома, у якім раслі Васіль, Валянціна і малодшы брат Мікалай.

Варта зазначыць, што пахаваннем займаліся мясцовыя ўлады — райвыканкам і райсавет. Яны арганізавалі дастаўку цела, пахаванне на могілках, а таксама жалобны стол. Сацыяльныя службы належным чынам прывялі ў парадак і падворак, і могілкі.

Невядома толькі, дзе былі ўсе нашы грамадскія і палітычныя дзеячы.



## Ірына Дарафеева

**Вядомая беларуская спявачка збірае подпісы за сваё вылучэнне кандыдатам у дэпутаты.**

У інтэрв'ю Naviny.by яна сказала, што пайшла на такі крок, бо «хочацца нешта змяніць і ў сваім жыцці, і ў жыцці краіны. Дапамагчы нашаму грамадству і народу». Як яна дапаможа, яшчэ не ведае, таму што пра праграму і абяцанкі «рана казаць». «Спачатку трэба сабраць подпісы, а далей актыўна прапрацоўваць праграму», — вырашыла яна.

Падаецца, што першым пунктам яе перадвыбарчага абяцання павінна стаць «як след вывучыць дзяржаўную мову Рэспублікі Беларусь». «Я размаўляю па-беларуску, толькі хочацца добра адказаць», — сказала ў інтэрв'ю Дарафеева, і далей працягнула па-руску пра тое, што «вельмі любіць мову», але «мы павінны паступова да гэтага ісці».

Што ж, мы знайшлі яшчэ адну знакавую асобу, якой дарога на курсы «МоваНанова».



## Лявон Вольскі

**Вядомы беларускі спявак праз ахвяраванні аматараў яго творчасці сабраў усю неабходную суму на выданне новага альбома.**

Якая гэта сума, музыка не называе, бо не жадае, каб пачаліся «жарсці». Маўляў, камусьці яна падасца вялікай, а камусьці маленькай, таму не трэба яе агучваць. «Дасылалі грошы з усяго свету, не толькі з Беларусі. ЗША, Канада, Польшча, Швейцарыя, Германія, Аўстралія, Венгрыя, Чэхія, Румынія, з экзатычных краін — Сінгапур, Новая Зеландыя, нават з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі хтосьці даслаў. З Уладзівастока, з Расіі некалькі дзясяткаў чалавек, — дзеліцца Лявон. — Некаторыя ахвяраванні было вельмі цяжка прымаць, бо было бачна, што людзі дасылалі апошняе. Адна дзяўчынка, напрыклад, напісала ў каментары, што дасласць вялікую суму, на жаль, не можа, бо гэта ўся яе стыпендыя. Цяжка такое прымаць, але я вельмі ўдзячны ўсім!»

Сабраныя сродкі пойдуць не толькі на запіс, звядзенне, майстарынг і выданне альбома, але і на прамоўшн. Напрыклад, запланаваны здымкі двух кліпаў. Адзін з іх будзе з удзелам тых, хто ахвяраваў грошы, другі — больш канцэптуальны. Бліжэйшым часам музыка плануе сабрацца са спецыялістамі і абмеркаваць адзін з кліпаў — што гэта будзе за відэа і як яго будуць здымаць.

Выхад новага альбома Вольскага запланаваны на восень. Яго саўнд-прадзюсарам выступіць Снорэ Бергеруд, які працаваў і над мінулым сольнікам музыканта «Hramadaznaŭstva. Volski». Новы дыск будзе складацца з 16 трэкаў і ў параўнанні з папярэднікам будзе больш паэтычным.

# Выбары: што атрымаем за нашы грошы?

Сяргей ПУЛЬША

**Кампанія па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў уваходзіць у «гарачую фазу». На вуліцах з'явіліся пікеты прэтэндэнтаў у кандыдаты, якія актыўна стасуюцца з народам. Аднак ці будзе гэтая кампанія нечым адрознай ад ранейшых — вялікае пытанне.**

## «Жоўтая картка»

Згодна з пастановай ЦВК ад 8 чэрвеня, перад прыняццем рашэння аб фармаванні выбарчай камісіі на абмеркаванне павінна выносіцца пытанне «аб дзелавых і палітычных якасцях асоб, вылучаных у склад камісіі», а калі лік прэтэндэнтаў у склад камісіі перавышае прадугледжаную колькасць, заслухоўваецца інфармацыя па кожнай кандыдатуры і ладзіцца персанальнае галасаванне.

Падавалася б, у такіх варунках сябры палітычных партый маюць перавагу пры стварэнні камісій. Але рэальнасць апынулася нават горшай за прагнозы адмыслоўцаў. Пастанова ЦВК — адно, а правапрымяняльная практыка — іншае. Недзе, як у Магілёўскай вобласці, ТВК фармавалася адмысловымі «рабочымі групамі», ніяк не прапісанымі ў заканадаўстве. Недзе, як у Брэсцкай вобласці, за камісіі галасавалі спісам, а не персанальна. У Гродзенскай вобласці ў дачыненні да апазіцыянераў (адрозна ад прадстаўнікоў праўладных партый і аб'яднанняў) сабралі нават характарыстыкі з участковых. Улічваючы, што мала які актыўны апазіцыянер не мае адміністратыўнага пакарання за сваю дзейнасць, зразумела, што «хуліган» не можа быць у камісіі.

Як адзначаюць у кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», агульны крытэр, які негалосна скарыстоўваўся пры вызначэнні сябраў ТВК і АВК, — досвед удзелу ў выбарчых камісіях. У той час калі прадстаўнікоў апазіцыі туды не ўключаюць з зайздроснай рэгулярнасцю, гэта нагадвае анекдот: «Прэзідэнтам краіны можа быць асоба, якая мае досвед прэзідэнцкай працы не менш за пяць гадоў».

У выніку колькасць прадстаўнікоў апазіцыйных партый у АВК склала 1,8% ад агульнай колькасці іх сябраў. Падчас парламенцкіх выбараў 2008 года іх працэнт у складзе АВК — 2,2, а на парламенцкіх выбарах 2012-га — 3%. То бок, у параўнанні з выбарамі 2008 года знізіўся амаль удвая.

**Агульны крытэр, які негалосна скарыстоўваўся пры вызначэнні сябраў ТВК і АВК, — досвед удзелу ў выбарчых камісіях**

Рух «За Свабоду» ўжо паспеў з гэтай нагоды паспрачацца з Лідзіяй Ярмошынай. Прадстаўнікі РЗС абвясцілі, што выносяць ЦВК «жоўтую картку» за дыскрымінацыю дэмакратаў па палітычных поглядах. Старшыня ЦВК у адказ заявіла, што лепей бы РЗС заняўся справаводствам, бо іх дакументы на вылучэнне кандыдатаў у ТВК і АВК проста непісьменна складзеныя і ўвогуле маглі не разглядацца (у выбаркамы трапілі толькі два прадстаўнікі РЗС з 48 прэтэндэнтаў).

## Некаторыя раўнейшыя

Аднак, як высветлілася падчас абскарджвання неўключэння ў камісіі ў судзе, аналагічныя «папяровыя праколы» дапускалі і праўладныя арганізацыі. На падставе інфармацыі, атрыманай у судах, лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч паведаміў, што Беларускі саюз жанчын і Беларускае аб'яднанне ветэранаў «не вылучалі сваіх прадстаўнікоў у склад акруговых камісій належным чынам». «Замест пратаколаў пра вылучэнне сваіх прадстаўнікоў у камісіі яны накіравалі ў органы, якія фармуюць камісіі, копіі пратаколаў, што парушае патрабаванні выбарчага кодэкса. Апроч таго, гэтыя дакументы не ўтрымліваюць абавязковых звестак, якія патрабуе частка 7 артыкула 35 Выбарчага кодэкса: не пазначаны месцы знаходжання гэтых арганізацый, у шматлікіх выпадках не пазначаная партыйнасць накіраваных у камісіі асобаў», — зазначыў палітык.

Ён дадаў, што менавіта адсутнасць рэквізітаў сталася падставай для неўключэння ў склад выбарчых камісій прадстаўнікоў Руху «За Свабоду», але «прадстаўнікоў праўладных арганізацый увогуле ўключалі спісам без аніякіх дакументаў пра вылучэнне і без аніякіх прававых падстаў».




**ПРАВААБАРОНЦЫ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ**

Чаму АВК і ТВК такія важныя? Яны ж не праводзяць наўпроставага падліку галасоў? Ды таму, што яны, па-першае, кантралююць складанне спісаў выбаршчыкаў, а па-другое, разглядаюць скаргі на парушэнне выбарчага заканадаўства і на дзеянні выбарчых камісій ніжэйшага ўзроўню. А ТВК яшчэ і «ажыццяўляюць кантроль за захаваннем роўных прававых умоў передвыбарнай дзейнасці кандыдатаў у дэпутаты».

Без прысутнасці ў іх апазіцыянераў пра роўныя ўмовы перадвыбарнай дзейнасці кандыдатаў можна забыцца.

## Што прапануюць кандыдаты?

Асноўнымі арганізатарамі выбараў, канстатуюць «Праваабаронцы за сумленныя выбары», з'яўляюцца пяць найбуйнейшых праўладных грамадскіх аб'яднанняў — «Белая Русь», БРСМ, Беларускі саюз жанчын, Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў, ФПБ. Агулам гэтыя аб'яднанні вылучылі 42 чалавекі ў ТВК і 663 у АВК, з іх 37 сталі сябрамі ТВК (88% ад вылучаных) і 605 сябрамі АВК (91,2% ад вылучаных).

Ужо вядомыя некалькі «праўладных» прэтэндэнтаў у кандыдаты, якія гэтым разам пачалі збіраць подпісы. Зноў пазмагацца за крэсла дэпутата збіраецца спартоўца і дзеючы дэпутат з «Белай Русі» Вадзім Дзевятоўскі. «Акурат займаюся гэтым пытаннем», — каротка і без падрабязнасцяў сказаў «Еўрарадыё» старшыня Федэрацыі лёгкай атлетыкі. Цікава, што Алімпійскія гульні якраз пачынаюцца разам з агітацыяй на парламенцкіх выбарах.

Дэпутацкія мандаты апроч яго збіраюцца паднавіць сябры «Белай Русі» дэпутаты Аксана Няхайчык і Валер Барадзеня. Пад сцягам ФПБ збірае подпісы за сваё вылучэнне спявачка Ірына Дарафеева, якая заявіла, што передвыбарчую праграму будзе распрацоўваць пасля магчымай рэгістрацыі.

Застацца народным абраннікам жадае таксама дэпутат Вольга Палітыка. Яна беспартыйная, таму вылучаецца праз збор подпісаў. А да народа пойдзе са сваёй ранейшай праграмай. «Там усё актуальна засталося, база будзе тая ж. Каб наша заканадаўства забяспечвала дастойны ўзровень заробкаў для сумленных грамадзян, каб заканадаўчая база дазваляла развівацца малому і сярэдняму бізнесу», — сказала Палітыка «Еўрарадыё». Узнікае пытанне, што ж яна рабіла ўвесь папярэдні парламенцкі тэрмін, калі не выканала сваіх абяцанняў?

Відавочна, што праўладныя прэтэндэнты на парламенцкае крэсла не могуць прапанаваць народу нічога новага, апроч як «развівацца і працаваць», як тое агучыў на Усебеларускім сходзе Лукашэнка. Таму, каб закрыць поўную нястачу ідэй ва ўлады і патрэбныя свае выбарчыя камісіі.



Фота www.charter97.org

## Нязгодныя

Апазіцыя на тое, каб трапіць у парламент, не спадзяецца. Яна па-ранейшаму разлічвае на прапаганду падчас кампаніі сваіх ідэй і эканамічных праграм, а таксама на збор доказаў таго, што беларускія выбары не адпавядаюць стандартам АБСЕ.

Аднак сёлета яе тактыка істотна змянілася.

Калі раней апазіцыянеры, выбраўшы ўсе магчымасці агітацыйнай кампаніі, здымаліся з выбараў, каб «не легітымізаваць уладу», то зараз хаця б яе частка пойдзе «да канца». «Асноўная стратэгія правацэнтрысцкіх сілаў будзе ў падтрымцы нашых кандыдатаў, каб за іх прагаласавала большасць беларускага грамадства, і мы маглі б даказаць, што выбараў у Беларусі няма», — паведаміў адзін з лідараў правацэнтрысцкай кааліцыі (РЗС, Аб'яднаная грамадзянская партыя і БХД), сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі.

То бок, апазіцыя сёлета мае намер дайсці да этапу галасавання. Як кажа лідар АГП Анатоль Лябедзька, тактыка байкоту (ці хаця б спроб яго арганізаваць) была слушнай у мінулым, калі для набыцця мандату патрабавалася яўка ў 50% і трэба было набраць 50%+1 голас выбаршчыкаў. Зараз умовы змяніліся: дэпутата абіраюць простай бальшынёй галасоў. Відавочна, гэта адна з моцных, і наўрад ці стануючых змен у выбарчым заканадаўстве. Бо яна фактычна не дапускае правядзення другога туру выбараў.

## За нашыя ж грошы

Выдаткі на парламенцкія выбары складуць 0,2% ад усіх выдаткаў на агульнадзяржаўную дзейнасць, або 20 млн. 62 тыс. 26 дэнамінаваных рублёў і 50 капеек. То бок, прыблізна $10 млн. Што на мільён больш, чым раней. Кажуць, гэта звязана з дадатковымі выдаткамі на тэрытарыяльныя камісіі.

Амаль столькі ж выдаецца на дзяржаўныя органы, якія забяспечваюць дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі, або на апарат міждзяржаўнай інтэграцыі. На дашкольную адукацыю, альбо на сацыяльную абарону вылучаецца ў 4,5 разоў менш, на маладзёжную палітыку ці на кінематограф — у 3 разы менш, падлічыла «Радыё Свабода».

Пакуль што няма падстаў казаць, што за гэтыя грошы Беларусь наладзіць празрыстыя і свабодныя выбары па стандартах АБСЕ. Наадварот, сыходзячы з практыкі стварэння выбарчых камісій, ёсць усе шанцы на тое, што нашы выбары пройдуць «як заўжды». Дык ці варта марнаваць на іх грошы? Ці не аддаць хаця б палову той жа дашкольнай адукацыі?

Лідзія Ярмошына казала, што сёлета назіральнікі пабачаць працэс падліку галасоў, то бок сябры камісій не будуць закрываць бюлетэні сваімі філейнымі часткамі. Аднак вернемся да таго, з чаго пачыналі — і кандыдатуры ў АВК і ТВК планавалася абмяркоўваць. Правапрымяняльная практыка вельмі адрозніваецца ад самых шчырых дэкларацый...

# «Я ўжо не веру, што будуць калі лепшыя часы…»

Сяргей ШАПРАН

**Валянціне Уладзіміраўне Быкавай 7 ліпеня споўнілася б 90 гадоў. Яна не дажыла да юбілею ўсяго некалькі дзён. 4 ліпеня а 8-й раніцы яна адышла ў лепшы свет. Валянціна Уладзіміраўна пасля гвалтоўнага нападу больш за месяц знаходзілася ў віцебскай лякарні. Гэты артыкул мы рыхтавалі да яе Дня народзінаў.**

Сапраўды, меў рацыю Васіль Быкаў, калі некалі падчас нашай размовы яшчэ на пачатку 1990-х казаў, што яго пакаленне нешчаслівае — яно не мела шчасця ў мінулым, не будзе мець і ў будучым.

Гэтаксама, як і славуты брат, Валянціна Уладзіміраўна пражыла нялёгкае жыццё — галаднеча ў дзяцінстве, вайна і палон, і зноў галаднеча — цяпер ужо пасляваенная, праца ў калгасе і — мізэрная пенсія разам з адзінотай — пасля таго, як Валянціна Уладзіміраўна пахавала не толькі бацькоў, але і двух братоў, і мужа.

Знешне падобная да старэйшага брата Васіля, яна жыла у вёсцы Ваўчо, паблізу з Ушачамі, куды пераехала з родных Бычкоў, калі пабралася шлюбам. Калі бывалі разам з Рыгорам Барадуліным на Ушаччыне, дзядзька Рыгор кожнага разу завітваў да сястры сябра і неаднойчы здаралася, што падчас гутарак з Валянцінай Уладзіміраўнай нешта занатоўваў і ўжо пасля тлумачыў, што запісваў ушацкую гаворку, пра што і пісаў потым у лістах да Васіля Быкава: «Да нас завітала твая сястрычка Валя. Хоць наслухаўся я ўшацкай мовы, хоць пачуў вушацкі голас. Яна як зязюлька баравая». І іншым разам: «Раней у Вушачу ехаў паслухаць нашую мову, гаворку нашую. Цяпер глуха. Як з Валянцінай сустракаюся, дык ажываю душой. Слухаю яе, як з крыніцы п'ю».

Дый сама Валянціна Уладзіміраўна, калі запытаўся ў яе, прыгадвала: «Рыгор, калі прыязджаў, заўсёды званіў: "Валечка, прыходзь! Мы ўжо прыехалі". Дык я — лахі пад пахі — і да яго, а ён ужо сустракае — і руку пацалуе, і абцалуе, і стол накрые. Як ён любіў частаваць! І віно паставіць (мы з іхнай жонкай Валяй чаркамі, а Рыгор бутэлькай з намі чокнецца, бо сам тады ўжо не піў), і ўсё падкладвае і падкладвае ды пытаецца: "Валечка, табе, можа, яшчэ?" — "Ай, не, — кажу, — дзякуй, я ўжо паела". Такі гасцінны быў чалавек… І вось так сядзім-гамонім, а пасля Рыгор пісаў Васілю: "Дужа люблю сястру тваю Валянціну, люблю з ёй размаўляць. Яна адна засталася ў Вушачы, хто па-дзеравенску яшчэ гаворыць". Але я і сама любіла, як яны сойдуцца з Васілём ды пачнуць гаманіць. А якія лісты дасылалі! Барадулін пісаў: "братка Васіль", а Васіль — "братка Рыгорка". Я й сама казала Рыгору: "Ты мой другі, пасля Васіля, брат". Я да яго на "ты" звярталася. І ён да мяне на "ты" быў, усё Валечкай мяне называў, зязюлькай баравой…»

Зрэшты, калі запытацца ў Валянціны Уладзіміраўны пра яе ўласнае жыццё, дык яна пачынала гаварыць не пра сябе — найперш пра старэйшага брата. Дый яшчэ пра тое, як жылося ў вайну, нібыта гэта толькі ўчора было. Вось толькі некаторыя з тых аповедаў Валянціны Уладзіміраўны.

***

Нарадзіліся і я, і Васіль, і малодшы наш брат Мікола яшчэ ў старой хаце — яна была праз вуліцу на прыгорачку. Мы з Васілём не біліся — толькі, бывала, пабрэшам троху. Памятаю, я дала яму мянушку «воўк», а ён мне — «свіння». Неяк хварэлі мы на кор, тыдзень, мусіць, у школу не хадзілі. І калі бацькоў не было ў хаце, пачалі біцца, але трошку. Васіль бегаець па сваёй койцы і крычыць на мяне: «Свіння! Свіння!» А я ў адказ: «Воўк! Воўк!» Тады ён кіне на мяне чым-небудзь — трапкай якой ці дзяізлам.

Ці, памятаю, была ў нас сажалка на агародзе, бальшая такая сажалка, глыбакаватая. Мы плаваць хацелі навучыцца — збярэмся некалькі дзяўчат і пойдзем на сажалку. Аднойчы толькі распранулісь і ўлезлі ў тую лужыну, як прыбеглі Васіль і яшчэ тры ці чатыры мальцы, пахваталі нашу адзёжу і ўцяклі. А мы, голыя, засталіся ў той сажалцы! (Смяецца.) Вылезлі, адзёжы няма, ну што нам робіць? Але добра, што недалёка мая хата. Мы з Надзяй, з маёй стрыечнай сястрой, па кустах галяком дадому і прыбеглі. А-ай, прыбегла я ды хутчэй на печ — халодна мне стала. Ляжу і галашу:

— Купацца пайшлі, а мальцы прыляцелі, адзёжу нашу пахвалі!

Як бацька пачуў пра тое ды спытаў:

— А хто?

— Васіль наш, а яшчэ Валодзя, Коля…

— Ага, — гаворыць бацька, — дык дам яму за гэткае дзела, баню яму зраблю!

Узяў Васіля за руку і рамнём яго кром сябе некалькі разоў па жопе, па жопе.

— Во, — гаворыць, — за гэта. Навошта гэта трэба было? Яны ж голыя, ім жа халодна было…

Але ж бацька ні раней, ні пасля таго ні Васіля, ні мяне больш ніколі не біў, ніколі больш Васіля пальцам не зачапіў, нават не лаяўся ніколі.

***

Да вайны жыццё цяжкое было ў нас у калгасах: галадалі, на трудадзень давалі сто-дзвесце грамаў мякіны. Бывала, атрымае бацька палучку — прынясець палову мяшочка нейкай гірсы (не жыта чыстага, а нарасценя з травой, адным словам, абы што), змеле яго, мама мукі дабавіць — каб хоць хлеб зляпіць… Да вайны карова ў нас была, але яе нечым было карміць, дык яна прапала з голаду. Праўда, якраз у той год бацька цялушачку пусціў ад яе. І калі ў пачатку вайны яна ацялілася, дык і дачакаліся мы таго малака. Але колькі яна ў нас пабыла? — год ці два, а тады забралі ў нас яе партызаны, кароўку нашу. І зноў мы ні з чым засталіся…



Брат Мікалай з жонкай Антанінай, Валянціна Уладзіміраўна, бацькі Уладзімір Фёдаравіч і Ганна Рыгораўна



Брат і сястра

Фота з асабістага архіву Сяргея Шапрана

Аднак не сказаць, каб з прадуктамі ў пачатку вайны вельмі дрэнна было. Калі прыйшлі немцы, калгасы яны распусцілі, а зямлю падзялілі — кожнаму гаспадару па «шнурку» далі, пааддавалі людзям коней ды кароў. Помню, конь у нас быў, бацька і пахаў на ім, і сеяў, і жыта добрае вырастала. Мама пажнець, дык пасля мы ўтрох — з бацькам і матуляй — малацілі цапамі. Я спачатку не ўмела, а тады навучылася… (Смяецца.) Затым бацька з веялкай гэтак акучыць — мякіна ў адзін бок ляціць, а чыстае зярно ў іншы. А пасля на жорнах спрытненька змелець, тады ўжо мама хлеба напячэ. А хлеб быў такі смачны, пышны! Бацька ўсё хваліў: «Матка, твой хлеб дужа добры, а сусед як спячэ, дык у рот нельга ўзяць!» (Смяецца.)

І праўда — мама ўмела пякчы хлеб, такі рыхлы быў, пахнючы… І свіней гадавалі, і карова была. А як на трэці год з'явіліся партызаны, дык тады кароў пазабіралі, праўда, не ва ўсіх. Спачатку партызаны не дужа нас абіралі. Казалі, гэта ў Заходняй Беларусі тое было — майго роднага дзядзьку з Завулка амаль не ўбілі за соль. Ён сам расказваў, што расстраляць хацелі. Прыйшлі і гавораць: «Давай соль!» Там жа на станцыі было многа солі, і «западнікі» назагатавалі сабе, але прыйдуць партызаны і хто не дае, дык наставяць на гаспадара ружжо, а пасля найдуць тую соль і сабе забяруць. У нас, ва Усходняй Беларусі, дык нічога не было — усю вайну без солі елі.

Помню, забіў бацька парасёнка — небальшэнькі такі быў, а як без солі яго есці? — хоць і мяса, але ж несалёнае. Гэта «западнікаў» партызаны абіралі, а нас, дзе была партызаншчына, дык не дужа. Але і ў нас нешта загадвалі здаваць — зярно, кажухі, валёнкі ў каго лішнія, хлеб ім пяклі. Ці калі партызаны ў вёсцы спыняліся, дык па хатах іх размяркоўвалі. У нас таксама два партызаны стаялі. Калі ж пачалася блакада, тады партызанаў разагналі, у Селішчах гарнізон нямецкі стаяў, і ўжо немцы нас абіралі — едуць па вёсцы і дзе якая курыца, зярно, бульбіна якая ці трапка — усё пад мятлу мялі! Хату нашу так вычысцілі, што засталіся толькі голы стол ды лавы — ні бульбінкі! Знайшлі нават вялікі сундук з зярном, што бацька ў аўразе закапаў, — усюды шомпарамі зямлю папорвалі… А ўжо ўначы партызаны прыходзілі — тыя, што пааставаліся і ў лесе хаваліся, — таксама нешта давай! Якія па-чалавечы просяць, а калі скажаш, што і самім няма чаго есці, дык вызверыцца — усякія ж былі — і пойдзе ўсюды лазіць, усю хату і чардак абнюхае… Так што, і немцаў баяліся, і сваіх, бо былі свае — усё роўна як ворагі…

***

А цыгане ж у вайну стаялі ў Бычках табарам, і ў нашай хаце нават жылі. Дык мама ўсё на картах прасіла паваражыць, ці жывы Васіль. І вось ніколі не сказалі, што ён загінуў. Увесь час гаварылі: ён у дрэнным стане, але жывы і вернецца. Ну, дык бацька з мамай верылі і надзеяй жылі.

***

А ўжо перад вайной паехаў Васіль ад нас — вучыцца спачатку ў Віцебскае мастацкае вучылішча, а пасля — ужо ў ФЗН, а потым вайна пачалася. І ўсю вайну мы не бачылі яго, не ведалі, дзе ён. Дзе ж ты ў вайну тыя лісты атрымаеш! Усю вайну бацька і мама плакалі ўвесь час, а-ай! І бацька плакаў, ён жаласны быў. Бывала, сядзе есці, перахрысціцца, «Ойча наш» праізнясе — бацька быў набожны, мама таксама, але менш — і тады ўспамінае:

— Дзе ж наш сыночак? — А пасля пачне плакаць. — Можа, ён, бедненькі, галодненькі, можа, яго на свеце няма.

І сядзяць яны з мамай і разам плачуць… Я дык яшчэ маладая была, мне брата, канешне, было шкада, але, вядома, у галаве яшчэ маладосць была…

Хаця, як пасля мы дазналіся, лісты Васіль усю вайну пісаў, але яны не даходзілі, пакуль яшчэ фронт у нас стаяў. А як фронт ужо перайшоў, як Ушацкі раён асвабадзілі, тады толькі пачалі атрымліваць тыя лісты. Першы мама атрымала. Тады якраз калгас зноў арганізаваўся, і мама на лузе сена грабіла. У той час паштальёнка і ўручыла ліст ад Васіля. Мама ледзь не абдушылася — яна ж негараматная была, дык пабегла з тым лістом дадому, каб бацька хутчэй прачытаў… Васіль жа тады пісаў: не ведаю, не спадзяюся — ці жывыя вы ёсць, ці няма вас нікога, колькі я лістоў адправіў, але адказу няма, не ведаю, можа, і вашай вёскі ўжо няма, можа, немцы расстралялі, землякі, хто жывы, адзавіцеся… Як прачыталі мы той ліст, дык так ужо былі рады, так плакалі, ай!

***

Ужо калі Васіль з вайны вярнуўся, дык мала пра што распавядаў, не любіў. Памятаю, аднойчы, калі ўжо жыў у Гродне, прыехаў да нас нават на цэлы тыдзень, мне яшчэ сена дапамагаў варочаць. Дык тады расказаў, як яго ранілі пад Кіравааградам, але пасля таго, як я спытала, як з пахаронкай атрымалась. Я сама стала болей ведаць пра Васіля, калі прачытала ягоную «Доўгую дарогу дадому»…

***

…А цяпер толькі б здароўе было… Я ўжо не веру, што будуць калі лепшыя часы. Я не дачакаюся…

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**«Людзі без пэўнага месца жыхарства» — за гэтым тэрмінам хаваюцца зламаныя лёсы. Падаецца, і дзяржаве, і грамадству ўсё роўна, адкуль яны бяруцца і куды знікаюць. Чаму толькі адзінкі бяздомных у нашай краіне вяртаюцца да нармальнага жыцця? Што можна зрабіць, каб бяздомных у нашай краіне стала менш?**



Вулічны мастак Валер Ляшкевіч — гарадская легенда Гомеля. Болей за 18 гадоў ён маляваў, прадаваў свае карціны, збіраў ахвяраванні і проста жыў на вуліцы

# Вярнуцца дадому,
## ці Каму патрэбны беспрытульныя

### Шлях ад дому

Адкуль бяруцца бяздомныя? Напэўна, шмат хто скажа: «Каб менш піў, тады б і не бамжаваў». І ў большасці выпадкаў гэта сапраўды так. Шмат хто даходзіць да гэтага стану менавіта праз алкаголь.

Напрыклад, Аляксандр да алкаголю прызвычаіўся, калі яшчэ вучыўся ў школе. Пасля смерці маці яму ў спадчыну перайшла палова дома (у другой жыў бацька). І Аляксандр на правах гаспадара паціху стаў прадаваць усё, што было ў хаце. Калі прадаў усё, што толькі можна, пачаў красці. У выніку трапіў за краты. Калі выйшаў з турмы, то даведаўся, што бацька яго памёр, а ў бацькоўскім доме жылі ўжо чужыя людзі. І вось так у 20 гадоў стаў жыць на сметніку. Бутэлька для яго стала і татам, і мамай. Піў нават зялёнку, бо там жа «дзесяць працэнтаў спірту!». І няважна, што зялёнкай быў абпалены ўвесь страўнік. Так прайшлі дзесяць гадоў. Пакуль ён не зразумеў, што больш так жыць не хоча, і не патрапіў да валанцёраў, якія накіравалі яго ў рэабілітацыйны цэнтр.

Сярод бяздомных даволі шмат і тых, хто мяняў свае вялікія квадратныя метры не толькі на келіхі таннага віна, але і на дозы гераіну. Яшчэ больш тых, хто адседзеў турэмныя тэрміны, і нават не адзін раз. Дырэктар Дома начнога знаходжання ў Мінску Павел Залатухін кажа, што 95% бяздомных — былыя зняволеныя.

Сяргей трапіў у турму яшчэ ў савецкі час. Пакуль ён адбываў свой тэрмін, жонка сышлася з іншым мужчынам і выпісала Сяргея з кватэры. Мужчына выйшаў з турмы, а жыць яму ўжо не было дзе. Ён стаў бадзяцца па горадзе, піць. У выніку, Сяргей сеў другі раз у турму за крадзеж. Пасля другой адсідкі выйшаў і стаў жыць па закінутых паддашках і падвалах. Так працягвалася да таго моманту, пакуль мужчыну не падабралі валанцёры і не накіравалі ў адзін з прытулкаў.

А бываюць і тыя, каго на вуліцу прывяло разбітае сэрца. Як, напрыклад, Дана — жанчына сярэдніх гадоў, якая жыве ў прытулку на Гродзеншчыне. Яшчэ зусім нядаўна яна жыла разам з мужам у Шчучыне. Але шчасце цягнулася да таго моманту, пакуль муж не сышоў да іншай жанчыны, а Даніна хата не згарэла. Жанчына стала прыходзіць да мясцовага касцёла, дзе яе кармілі. Адна валанцёрка ведала пра прытулак для бяздомных на Шчучыншчыне і адвезла жанчыну туды.

Можна прагназаваць, што ў бліжэйшы час колькасць бяздомных дакладна не паменшыцца, улічваючы той факт, што з 1 ліпеня ўсё непрыватызаванае жыллё перайшло ў разрад арэнднага, з якога значна прасцей выселіць чалавека. А калі яшчэ ўзгадаць, што і з працаўладкаваннем, і з заробкамі зараз у нас цяжка, то трагічныя гісторыі страты даху над галавой могуць стаць не такімі ўжо і рэдкімі.

А гэта значыць, што праблема беспрытульных можа значна абвастрыцца. Таму і грамадству, і дзяржаве трэба не з агідай адварочвацца ад бруднага чалавека ля сметніцы, а спрабаваць комплексна вырашаць праблему і дзейнічаць супольна.

### Ёсць чалавек, ёсць праблема

«Вось на Захадзе зусім няма практыкі даваць ім бескаштоўны начлег! Там такія начаць у хостэлах!» — гэтыя словы я аднойчы пачула ад дырэктара Мінскага дома начнога знаходжання.

Я была вельмі ўражаная гэтымі словамі, маючы гонар за сваю краіну, якая нібыта так спраўна вырашае сацыяльныя



праблемы… Але з цягам часу, калі стала больш паглыбляцца ў тэму, зразумела: можа, у Еўропе некаторыя бадзягі і плацяць за дах над галавой, але большасць не толькі жывуць у бясплатных начлежках (якіх налічваецца з дзясятак у вялікіх гарадах), аднак атрымліваюць там і матэрыяльную, і псіхалагічную, і духоўную дапамогу. Напрыклад, у добра арганізаваных бярлінскіх начлежках беспрытульныя маюць магчымасць кансультацый па жыццёва важных пытаннях. А тыя, хто жадае змяніць сваё становішча, мусяць узяць удзел у мерапрыемствах па інтэграцыі ў нармальнае жыццё.

У Беларусі ж адсутнічае комплексная сістэма дапамогі бяздомным. У нашым грамадстве большасці ўсё адно, а меншасць становіцца валанцёрамі. Але пакуль менавіта пра праблему беспрытульнасці ў Беларусі не надта любяць казаць.

Якая, маўляў, праблема, калі, згодна з афіцыйнай статыстыкай, пасля апошняга перапісу насельніцтва мы маем толькі 587 бяздомных? Для параўнання, у Польшчы такіх людзей больш за 36 тысяч, а ў Францыі — 8 мільёнаў. Таму Беларусь па гэтых паказчыках можна назваць узорнай краінай.

Толькі ў рэальнасці ад гэтай узорнасці бяздомных не становіцца менш. Дастаткова прайсціся па мінскіх рынках або па так званых «бомж-сіці» — сметніках, лясах, парках.

### Дзяржава штосьці робіць

Заявы накшталт «дзяржаве няма справы да гэтых бяздомных!» занадта суб'ектыўныя і галаслоўныя. Дзяржава спрабуе штосьці рабіць, наколькі можа і разумее сваю задачу.

Напрыклад, праводзіцца акцыя «Сацыяльны патруль». У зімова-вясновы перыяд у кожным раёне сталіцы ствараліся пункты па аказанні псіхалагічнай, юрыдычнай і сацыяльна-гігіенічнай дапамогі людзям без пэўнага месца жыхарства.

У зімовы час супрацоўнікі тэрытарыяльных цэнтраў носяць гарачую гарбату, каб хоць неяк дапамагчы бяздомным перажыць самы няпросты перыяд. Напрыклад, бяздомны Славік, як яго ласкава называюць, абмаразіў сабе ногі на вакзале.

Славіка падабралі і накіравалі ў прытулак на Гродзеншчыну падчас аперацыі «Бомж». Гэта пастаянная міліцэйская аперацыя. Пасля яе бяздомных чакаюць «вашывыя» камеры, як іх прazвалі ў народзе, і гарачыя абеды. Калі пашанцуе, то і ў Доме начнога знаходжання для іх знойдзецца ложак. У камерах бяздомных пакормяць, дадуць некалькі сутак паспаць, а пасля — на вуліцу.

Таму ўзнікае заканамернае пытанне: навошта стваралі адзіную на ўвесь Мінск начлежку? Ці толькі для справаздачы? Асабліва, калі ўлічыць, што кормяць там бяздомных штодзённа пратэстанцкія цэрквы, грошы на аднаўленне дакументаў і рэгістрацыю даюць таксама цэрквы, вопратку мяхамі носяць валанцёры. Можа падацца, што дзяржава не надта зацікаўленая ў сацыялізацыі бяздомнага, які трапіў у Дом начнога знаходжання. Галоўнае, што цэлы год (менавіта столькі бяздомнаму можна там бясплатна ночыць) ён не будзе бадзяцца па начных вуліцах сталіцы.

Пасля майго прыходу ў якасці валанцёра ў Дом начнога знаходжання, дырэктар даў нумар рахунку са словамі: «А раптам хто пералічыць грошы — вельмі трэба фарбы набыць». Стала зразумела, што грошай на такія



**Толькі лічбы:**

587 — менавіта столькі бяздомных у Беларусі па афіцыйных дадзеных Белстата

Мужчыны і жанчыны 40–50 і 60 гадоў — такі ўзрост пастаяльцаў у Мінскай начлежцы

92 месцы — менавіта на столькі месцаў разлічаны Дом начнога знаходжання ў Мінску

70–90% — працэнт запаўнення бяздомнымі ў Доме начнога знаходжання ўзімку

50% — працэнт запаўнення бяздомнымі ў Доме начнога знаходжання ўлетку

95% бяздомных у начлежцы — асобы, якія маюць судзімасці (паводле слоў дырэктара Дома начнога знаходжання)

рэчы ў Дома начнога знаходжання няма. А вось выдаткоўваюцца яны на гэта дзяржавай ці не — гэта ўжо іншае пытанне.

Дарэчы, у Берліне, напрыклад, створана некалькі дзясяткаў прытулкаў для бяздомных, дзе можна ночыць з 31 верасня да 1 красавіка. З мясцовага бюджэту вылучаецца па 15 еўра на ноч на чалавека.

### Людзі другога гатунку

Беларускія бяздомныя знаходзяцца нібыта пасярод двух агнёў. З аднаго боку — дзяржава-апякунка, якая вечна займаецца пераразмеркаваннем бяздомных, а з іншага — грамадства, малая частка якога ўсімі сіламі намагаецца дапамагчы, а астатнія — зрабіць усё, каб праблемны «кантынгент» не трапляў на вочы.

Такую сітуацыю добра адлюстроўвае ўжо нашумелы і вядомы прытулак у вёсцы Аляксандраўка на Гродзеншчыне, якім апякуюцца каталіцкія браты-паслядоўнікі Ордэну Маці Тэрэзы. Падаецца, ініцыятыва добрая. Два мужчыны ездзяць на аўто па Беларусі, знаходзяць бадзяг, прыводзяць, прывучаюць да працы на вёсцы, евангелізуюць. Падзякаваць бы! Замест гэтага Аляксей Шчадроў, заснавальнік прытулку, церпіць і канфіскацыю рэчаў, і бясконцыя праверкі, і выплату падаткаў, і пастаянную пагрозу ліквідацыі прытулку. І ўсё гэта адбываецца таму, што раёнчык нядобрадзейны атрымліваецца… Яшчэ б! Колішнія зэкі, наркаманы, алкаголікі, дармаеды — і ўсе ў адной вясковай хаце! Дзе ж тут спакойным будзеш?

Мясцовыя жыхары таксама не надта задаволеныя. Кажуць, бадзягі «ходзяць п'яныя па вёсцы». Хоць у прытулку дзейнічае сухі закон, пазіцыя вяскоўцаў досыць зразумелая. Хто хоча, каб былыя зняволеныя штодзённа прагульваліся каля тваёй хаты? Акрамя бяздомных, там яшчэ і сабакі жывуць, якія бадзяг сцерагуць. Але з сабакамі прасцей — можна атруціць (дарэчы, так і зрабілі з адным сабакам з прытулку). А вось з людзьмі крыху складаней…

Такім негатыўным стаўленнем грамадства наўпрост паказвае, што не гатова даваць беспрытульным людзям другі шанец, наракаючы ім, што яны горшыя — другога гатунку.

Нельга сказаць, што беларусы імкнуцца масава дапамагаць бяздомным. Але самае элементарнае жаданне — аддаць непатрэбнае адзенне — усплывае ў многіх. Толькі, аказваецца, месцы, куды тое дабро можна аддаць, не так лёгка і знайсці.

Некалькі разоў ад мінчан чула гісторыі пра тое, што яны хочуць аддаць непатрэбныя кашулі, джынсы, чаравікі, паліто ў спецыялізаваныя арганізацыі, але лагістыка настолькі складаная, што большасць плюнула, закрыла інтэрнэт і выкінула вопратку ў сметніцу.

Адзенне зараз у асноўным прымаюць некаторыя цэрквы, Чырвоны Крыж, або той жа Дом начнога перабывання, дзе вопратка стаіць мяхамі. Толькі валанцёры чамусьці не ўлічваюць факт: найперш такая дапамога патрэбна тым, хто бадзяецца каля сметнікаў або спіць у «бомж-сіці». Менавіта для іх варта арганізаваць значна прасцейшую працэдуру перадачы адзення, зрабіўшы — прынамсі на летні час — вулічныя кропкі збору ў розных раёнах горада.



Былы бяздомны Аляксандр

У Германіі, напрыклад, на вуліцах пастаўлены спецыяльныя кантэйнеры, у якіх жыхары гарадоў могуць складаць вопратку для бяздомных. І ніхто даўно не здзіўляецца, што яна не толькі папраная, але і папрасаваная.

Але хто хоча дапамагаць бяздомным — дапамагае як можа і той жа вопраткай, і ежай, і начлегам. У асноўным, гэта робяць цэрквы. Дыякан «Новага Жыцця» арганізаваў у Мінску закрытую начлежку для мужчын, дзе жыве разам з бяздомнымі.

Зусім маладыя хлопцы і дзяўчаты з «Ежы супраць бомбаў» (або, як іх у народзе называюць, «анархісты») кормяць па пэўных днях бяздомных у розных месцах Мінску. Ведаю, што і ў Дом начнога знаходжання пастаянна прыходзяць валанцёры. Пагуляць у шашкі ды шахматы з беспрытульнымі — таксама добрая справа, якая камусьці можа нагадаць той перыяд, калі чалавек яшчэ жыў "як і ўсе".

### Дзе знайсці выйсце

Ужо даўно праспеў час для прыняцця сістэмнага рашэння па дапамозе тым людзям, якія апынуліся на вуліцы. Паколькі проста гарачай гарбатай і цёплым адзеннем справу не вырашыш.

Першае, што патрэбна беспрытульным, гэта, канечне ж, жытло. Гэта могуць быць прытулкі, інтэрнаты, хостэлы ці што яшчэ. Напрыклад, у Польшчы для такіх людзей наогул існуе база гатэляў, якія функцыянуюць у правінцыях.

Натуральна, арганізаваць прытулак — не так проста. Але варта падумаць прынамсі пра тыя месцы, дзе бяздомны зможа памыцца, атрымаць лекі і нешта паесці. У той жа Польшчы, напрыклад, існуе адмысловая лазня для бяздомных.

Аляксей Шчадроў, заснавальнік прытулку ў Аляксандраўцы, запаліўся ідэяй такога кшталту дома каля Мінска ўжо даўно. Ён марыць пра тое, каб знайшоўся чалавек, які можа ахвяраваць для гэтага хоць якую хату-развалюху. «А я прыеду і за месяц уладкую там усё, будзе дзе людзям, якія, здаецца, ужо страцілі надзею, жыць», — запэўнівае Аляксей.

Хаця з эканамічнага пункту гледжання ўсё ж танней даваць беспрытульным якое-ніякое жытло, чым выдаткоўваць грошы на прытулкі і начлежкі. У ЗША, напрыклад, будуюць спецыяльныя дамы для бяздомных. І, дарэчы, колькасць бяздомных у раёнах пабудовы такіх дамоў значна скарацілася.

Праўда, для Беларусі амерыканскі варыянт малаверагодны, нават калі на гэта спецыяльна будуць вылучаныя сродкі. Па-першае, у нас вельмі цяжка вызначыць сярод бадзяг тых, каму сапраўды патрэбна гэтае жыллё, і тых, хто бадзяжнічае, бо ўжо прывык. Па-другое, бясплатная раздача кватэр будзе ўспрымацца як халява. Не факт, што, атрымаўшы жыллё, былы бяздомны пойдзе працаваць, а не «квасіць». Па-трэцяе, самім беларусам прыходзіцца падоўгу стаяць у чарзе на ўласныя метры або ўсё жыццё збіраць грошы на іх. Упэўнена, што бясплатная раздача жытла «алкаголікам-бамжам», а не сумленным працаўнікам выкліча хвалю абурэння.

Другая праблема — сацыялізацыя бяздомных. Па сутнасці, ёй займаюцца толькі некаторыя пратэстанцкія цэрквы, якія апякуюцца алкаголікамі і наркаманамі, займаючыся пры гэтым іх псіхалагічным і духоўным станам.

Той самы Аляксандр, які глытаў на сметніцы зялёнку, ішоў у рэабілітацыйны цэнтр з бутэлькай чарнілаў, бо гэта быў для яго запасны варыянт. Не дапамогуць там — ёсць той шлях, да якога заўжды можна вярнуцца. Ён казаў так: «Бачыў свайго сябра-бамжа, які меў некалькі адсідак, аднак урэшце стаўся там нармальным чалавекам. Тады падумаў: «А я што, лысы?»

І Аляксандр даў згоду на ўласныя змены. Але не так складана было адмовіцца ад алкаголю, як няпроста было навучыцца нармальна размаўляць. Гады жыцця на вуліцы прапаноўвалі яму толькі нецэнзурныя выразы. Мужчына ўладкаваўся на працу, пасля зняў пакойчык, у хуткім часе ажаніўся. А цяпер мае трох дзетак.

Аляксандр падкрэсліваў, што толькі з дапамогай людзей вярнуўся да нармальнага жыцця.

Магчыма, вырашэнню праблемы дапамагла б распрацоўка праграмы сацыялізацыі бяздомных. Каб была магчымасць запрасіць да працы псіхолагаў, спецыялістаў, якія дапамагаюць змагацца з залежнасцямі, то сацыялізаваных людзей мелі б значна больш.

У той жа Польшчы ў 2014 годзе з бюджэту краіны вылучылі сродкі на тры ініцыятывы з розных рэгіёнаў, накіраваныя на тое, каб бяздомныя маглі вярнуцца да нармальнага жыцця.

Важна таксама прымаць рашэнне па дапамозе бяздомным не толькі ў сталіцы і вялікіх гарадах, але і пачаць дзейнічаць стабільна ў гэтым накірунку ў рэгіёнах. Той факт, што на вуліцах большасці райцэнтраў ды мястэчак бяздомных не бачна, не кажа пра тое, што іх няма там зусім. Варта зазірнуць на сметнік, што знаходзіцца за горадам, каб пераканацца: праблема беспрытульнасці не абмінула і глыбінку.

У Польшчы мясцовае самакіраванне абавязана праводзіць мерапрыемствы па барацьбе з беспрытульнасцю — падтрымка асобных сямей, якія знаходзяцца на мяжы з бяздомнасцю, і барацьба са шкодным звычкамі, што з'яўляецца частай прычынай гэтай праблемы.

Сваю ролю можа згуляць і абвяшчэнне конкурсу сярод грамадскіх і рэлігійных арганізацый на малыя ініцыятывы, якія б пасля падтрымліваліся. Расклеіць па сметніках своеасаблівыя мапы з месцамі раздачы ежы бяздомным, арганізаваць кропкі сістэматычнага збору вопраткі, стварыць ініцыятыўную групу, якая б выходзіла па пэўных днях на вуліцу і размаўляла з бяздомнымі — усё гэта зрабіць рэальна.

Дарэчы, у Варшаве Чыгуначная кампаніяй PKP S.A. разам з некаторымі грамадскімі арганізацыямі рэалізоўвае праект пад назвай «Скарачэнне маштабу бяздомнасці на чыгуначных станцыях і навакольных тэрыторыях», згодна з якім добраахвотнікі выходзяць на вуліцу каля чыгункі і размаўляюць з бадзягамі, працягваюць ім руку дапамогі. Такая актыўнасць прывяла да скарачэння бяздомнасці.

Але спачатку дзяржаве трэба прызнаць: праблема беспрытульнасці ў Беларусі існуе — бяздомных у нас далёка не 587 чалавек, а каля 10 000, як падлічваюць эксперты. А пасля ўжо распрацаваць сістэму захадаў, якія дапамогуць вырашыць гэту праблему. Адначасова грамадству варта навучыцца даваць другі шанец такім людзям, бо няма перасцярогу ад астрогу.

***

Часта беларусам патрэбны наўпрост кліч аб дапамозе. Напрыклад, гэта заўжды спрацоўвае ў звязку з валанцёрскімі паездкамі ў Аляксандраўку. Добраахвотнікі пішуць у Фэйсбук пра тое, што менавіта варта набыць у прытулак. У выніку абсалютна розныя людзі набываюць туды і лінолеум, і шпалеры, і мяса, і даюць не такія ўжо і малыя ахвяраванні.

Таму з упэўненасцю можна сказаць: ёсць шмат людзей, якія чула ставяцца да тых, хто сёння апынуўся за межамі нармальнага жыцця, у каго няма даху над галавой і нават талеркі супу штодзень. Магчыма, менавіта гэтыя людзі вернуць бяздомных дадому.

**Фота ініцыятывы «Ежа супраць бомбаў»**

### Памятка для тых, хто хоча і можа дапамагчы

**Дзе можна знайсці бяздомных?**

1. «Бомж-сіці» — лес каля Дома начнога знаходжання на Ваўпшасава, 42
2. Камароўка і астатнія буйныя рынкі

**Дзе бяздомных кормяць?**

1. Міхайлаўскі сквер (ад «Ежы супраць бомбаў», кожная субота, 13.20)
2. У сталовай пры Царкве «Гефсіманія» (Багратыёна, 51)
3. Матусевіча, 58 (ад царквы «Новае Жыццё» штодня)
4. Дворык за Кафедральным касцёлам (Прыватная ініцыятыва, кожная серада, 19.00)
5. Сквер імя Сімона Балівара (ад «Ежы супраць бомбаў», кожная субота, 15.00)
6. ГЦ «Шчасце» (ад «Ежы супраць бомбаў», ст. м. «Усход», кожная нядзеля 14.00)

**Куды можна здаць вопратку для бяздомных?**

1. Царква «Благодать» (Гурскага, 48 — па аўторках, серадах, пятніцах — 18.00)
2. Царква «Гефсіманія» (Багратыёна, 51 — можна паднесці ў любы час)
3. Дом начнога знаходжання ў Мінску (Ваўпшасава, 42 — можна паднесці ў любы час)
4. Чырвоны Крыж (К. Маркса, 35)

**Падрыхтавана валанцёрскім клубам «Крыніца валанцёраў»**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Дэнамінацыя заразная

У Расіі паглядзелі на Беларусь — і таксама задумаліся пра дэнамінацыю рубля. Першай заявіць пра гэта адважылася фракцыя ліберал-дэмакратаў. Жырыноўцы лічаць, што новыя рублі не толькі ўздымуць аўтарытэт расійскай валюты, але і будуць садзейнічаць еўразійскай інтэграцыі. Маўляў, долар па 64 капейкі і гарэлка па некалькі рублёў адразу абудзяць настальгію па СССР на бязмежных прасторах постсавецкіх рэспублік. Некаторыя падтрымліваюць дэнамінацыю з-за вельмі нізкага курса расійскага рубля адносна новага беларускага: цяпер расійскі рубель каштуе тры беларускія капейкі, што гучыць вельмі абразліва для сапраўднага расійскага патрыёта. Праўда, апытаныя прэсай эканамісты не падзяляюць пункт гледжання жырыноўцаў і іншых аматараў дэнамінацыі. Па-першае, дэнамінацыя будзе каштаваць каля дзесяці мільярдаў рублёў. Па-другое, такія маніпуляцыі праводзяцца не ад добрага жыцця. Прасты расійскі абывацель у выпадку прыбірання нулёў з банкнотаў можа падумаць, што ў краіне эканамічная катастрофа.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Мэр-гей і вядзьмарка

Роберт Бедронь, мэр польскага гораду Слупск, вядомы сваёй нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй. А яшчэ ён вырашыў даць амністыю Трыне Папістэн, жыхарцы Слупска, якую гарадскія ўлады забілі ў далёкім 1701 годзе. Прычына — у незвычайнасці яе судовай справы. 88-гадовую жыхарку мястэчка спалілі на вогнішчы за тое, што яна быццам бы займалася чараўніцтвам, і нават заключыла дамову з д'яблам. Мэр лічыць, што справа была цалкам сфабрыкаваная, і гэта павінна давесці новая следства. Амністыяй вядзьмаркі Бедронь не абмяжаваўся. У бліжэйшы час адной з вуліц горада будзе нададзена імя Трыны. Прэса піша, што рэвізія справы Папістэн стане прававым прэцэдэнтам і запусціць працэс рэабілітацыі іншых польскіх вядзьмарак — ахвяр сярэднявечнай інквізіцыі. Праўда, гараджане асцярожна ставяцца да такой ініцыятывы свайго мэра. На муніцыпальным сайце ідэя з'яўлення на гарадской мапе вуліцы, названай у гонар вядзьмаркі, знайшла падтрымку толькі ў 22 працэнтаў рэспандэнтаў. Адмоўна ўспрынялі навіну са Слупска і польскія клерыкалы. На сайце аднаго з правых выданняў з'явіўся заклік адправіць на вогнішча самога мэра Слупска.

**Паводле польскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Дэмаграфічны выбух у сталіцы

З незвычайным зваротам да казахаў выступіў 4 ліпеня Назарбаеў. «Хачу з вялікай радасцю абвясціць, што сёння нарадзіўся мільённы жыхар Астаны. Цяпер Астана — горад з мільёнам жыхароў», — павіншаваў грамадзян кіраўнік краіны. Такім чынам, Астана стала другім (пасля Алматы) казахскім горадам з мільённым насельніцтвам. На думку Елбасы, гэта сімвал паспяховасці казахскай незалежнасці. «Пад нябесным сцягам мы разам ствараем гісторыю суверэннага Казахстана», — прамовіў Назарбаеў. Тое, што Астана раптам стала мільённым горадам, выглядае дастаткова дзіўна — з улікам таго, што яшчэ ў красавіку Елбасы прагназаваў, што насельніцтва сталіцы вырасце да мільёна чалавек толькі ў 2017 годзе. У маі муніцыпалітэт Астаны ацэньваў колькасць жыхароў горада ў 886 тысяч чалавек. Што за дэмаграфічны выбух адбыўся ў Астане за месяц, цяжкая сказаць. Варта нагадаць, што ў 1997-м, калі Назарбаеў вырашыў перанесці сталіцу ў былы Цэлінаград, у горадзе жылі толькі 275 тысяч чалавек. Увогуле, Назарбаеў чакае росту насельніцтва Астаны як мінімум да 4 мільёнаў чалавек.

**Паводле казахскай прэсы**

### АЎСТРАЛІЯ. Першы дэпутат-тубылец

У Аўстраліі адбыліся парламенцкія выбары, якія аказаліся гістарычнымі. Упершыню за больш чым сто гадоў існавання аўстралійскага парламентарызму, сярод дэпутатаў з'явілася прадстаўніца карэннага насельніцтва. Гэта 59-гадовая Лінда Бёрні, якая балатавалася ад партыі лейбарыстаў. Некаторыя лічаць, што Бёрні цяжка назваць сапраўдным тубыльцам. Справа не толькі ў тым, што яна абралася не ад раёнаў, дзе жывуць абарыгены, а ад мультыкультурнага Сіднея, дзе нацыянальнасць не адыгрывае ніякай ролі. Маці Лінды — белая аўстралійка. Доўгі час дзяўчынка нават не ведала пра наяўнасць бацькі, ды яшчэ тубыльца. Праўда, у гэтым быў сэнс, паколькі ўсіх дзяцей тубыльцаў у той час прымусова забіралі ў бацькоў і здавалі ў інтэрнаты. Цяжка сказаць, які лёс чакаў бы Лінду, калі б яна засталася жыць з маці і бацькам у рэзервацыі. А так дзяўчынка здолела атрымаць адукацыю, стала настаўніцай, а пасля зрабіла кар'еру рэгіянальнага палітыка і зараз трапіла ў парламент. Новаабраная дэпутатка збіраецца заняцца праблемамі сям'і і, натуральна, сваіх аўстралійскіх тубыльцаў.

**Паводле аўстралійскай прэсы**

# Адэскі трамплін Саакашвілі

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне — бум партыйнага будаўніцтва. Сярод заяўленых новых палітсілаў ёсць і партыя, блізкая да адэскага губернатара Міхаіла Саакашвілі. Пра амбіцыі экс-прэзідэнта Грузіі і яго спадчыну ў Адэсе распавядае Андрэй Ішчанка, мясцовы актывіст прафсаюзу «Захіст праці».**


Фота www.korrespondent.net

***— Літаральна на працягу аднаго тыдня ва Украіне анансавалі стварэнне трох партый. З чым гэта звязана?***

— Думаю, што вырашальным момантам стаў крызіс партыі «Самапоміч», якой кіруе львоўскі мэр Андрэй Садовы. Увесь піяр «Самапомачы» будаваўся на вобразе Львова як ідэальнага, амаль еўрапейскага горада. І раптам пад горадам пачынае гарэць гарадскі сметнік, у выніку чаго гінуць пажарныя. Пасля высвятляецца, што мэр абяцаў ліквідаваць гэты небяспечны экалагічны аб'ект яшчэ ў 2006 годзе. Цяпер машыны развозяць львоўскае смецце ў іншыя рэгіёны Украіны і натыкаюцца на пратэсты. Разам са сметнікам пад Львовам згарае і рэйтынг партыі, на якую арыентаваўся украінскі сярэдні клас. З'явілася спакуса заняць нішу.

***— Сярод новых абвешчаных праектаў — структура, за якой стаяць людзі Міхаіла Саакашвілі, у прыватнасці экс-намеснік пракурора Давід Сакварэлідзэ. Аднак Саакашвілі ў новым праекце не свеціцца. Чаму?***

— Гэта можа быць звязана з грузінскімі выбарамі, прызначанымі на восень. Вядома, што ў Саакашвілі там засталася партыя «Нацыянальны рух», вакол якой аб'ядноўваецца апазіцыя. Паводле апошніх апытанняў, «нацыяналы» і праўладная партыя ідуць роўна. Міхаіл Саакашвілі неаднаразова абяцаў грузінам вярнуцца. Магчыма, ён чакае вынікаў выбараў, каб канчаткова вызначыцца, у якой краіне яму працягваць сваю палітычную кар'еру. Акрамя таго, Саакашвілі баіцца фальстарту. Зараз ідзе перабудова ўсяго спектру прамайданаўскіх партый, і фінальная канфігурацыя, ад якой будзе залежаць перспектыва новага праекту, пакуль не зразумелая.

***— Ці мае сэнс праект Саакашвілі без удзелу ў ім Саакашвілі?***

— Наўрад ці, бо партыя, як і ўсе ўкраінскія партструктуры, пабудаваная пад канкрэтную харызматычную асобу, якая не сыходзіць з тэлеэкранаў. Саакашвілі вядомы ўсёй украінскай аўдыторыі. Ён добры спікер. Наўрад ці нехта іншы з яго аднапартыйцаў можа выступіць у ягоным амплуа.

***— Палітычны стыль адэскага губернатара чымсьці падобны на стыль «адзінага беларускага палітыка». Канёк Саакашвілі — рэпартажы з розных прадпрыемстваў і ўстаноў, куды ён нечакана прыходзіць з праверкай, каб пасля ў прамым эфіры вывесці на чыстую ваду карупцыянераў і прайдзісветаў. Беларускі досвед такой практыкі вельмі спрэчны. Які вынік рэйдаў Саакашвілі?***

— Думаю, аналагічны беларускаму. Адэсіты смяюцца з выступаў Саакашвілі, бо ведаюць ім цану. За амаль два гады яго губернатарства ніякіх кардынальных прарываў мы не пабачылі. Фактычна ў гэтым прызнаўся і сам кіраўнік вобласці, які нядаўна з намётам выехаў жыць за горад на знак пратэсту супраць таго, што цэнтр не дае

**Нягледзячы на тое, што майданаўскі электарат у горадзе складае не больш за 15 працэнтаў, міфы пра расійскае падполле ў Адэсе завышаныя**

яму грошай на мадэрнізацыю адной з трас горада (адно з яго галоўных абяцанняў). Праўда, варта прызнаць, што Саакашвілі палкі ў колы ўстаўляе мясцовая эліта, з якой ён не знайшоў агульнай мовы. Старыя адэскія кланы Костусева, Труханава, вядуць супраць яго сапраўдную вайну. Думаю, толькі ў Адэсе можна пабачыць білборды з анонсам праграмы пра апошнія злачынствы губернатара на мясцовым тэлебачанні.

***— Падчас размоў з адэсітамі склалася ўражанне, што гэта людзі, якім менталітэт дыктуе іранічна ўспрымаць абяцанкі палітыкаў. Аднак у свой час значная частка адэскай эліты падтрымала прыход Саакашвілі на губернатарства.***

— Магу растлумачыць гэта тым, што губернатарства Саакашвілі прыпала на першы крызіс постмайданаўскай адміністрацыі, якая давяла свою няздольнасць змагацца з карупцыяй. І тут з'явіўся Саакашвілі, за якім стаяў «грузінскі міф». Натуральна, шмат у каго ўзніклі ілюзіі. Аднак адэскія рэаліі трошкі іншыя, чым грузінскія. Не кажучы пра тое, што губернатар на месцы не ў стане паўплываць на агульнаўкраінскія сацыяльна-эканамічныя трэнды. Наўрад ці стварэнне публічных пляжаў можа кампенсаваць матэрыяльныя праблемы.

***— Як змяніліся заробкі ў Адэсе за апошнія часы?***

— Заробкі ўпалі прыкладна ў тры разы. Да 2014-га добры спецыяліст у Адэсе атрымліваў каля тысячы долараў. Зараз фантастычным лічыцца заробак у 400. Трэба дадаць, што адначасова хутка растуць камунальныя тарыфы. Паводле разлікаў, двухпакаёўка будзе каштаваць узімку пад сто долараў. Новыя квітанцыі не спрыяюць папулярнасці губернатара, які фармальна тут не пры чым.

***— Ці можа прарасійская апазіцыя ў Адэсе скарыстацца эканамічнымі праблемамі?***

— Нягледзячы на тое, што майданаўскі электарат у горадзе складае не больш за 15 працэнтаў, міфы пра расійскае падполле ў Адэсе завышаныя. Існуе ініцыятыва родных ахвяр майскіх падзей 2014 года. Кожны другі дзень месяца яны — як правіла пенсіянеры — збіраюцца каля Дому прафсаюзаў. Напэўна, гэта і ёсць адзінай праявай прарасійскай актыўнасці. Інтарэс да навароссаўскіх хімер знік у тым ліку пасля таго, як вялікая частка адэсітаў, якія не прынялі Майдан, збегла ў Расію. Паступова яны вяртаюцца на радзіму, распавядаючы пра тое, што ўяўляе сабой расійскі побыт. Агульная думка рэпатрыянтаў — заробкі там трошкі вышэйшыя, аднак жорсткая дысцыпліна па месцы працы, іншы рытм жыцця... Заробак гэтага не кампенсуе.

***— А як жа ролікі на расійскім тэлебачанні пра разгул у Адэсе радыкалаў-нацыяналістаў?***

— Хачу расчараваць усіх аматараў версіі пра «нацыяналістычнае гняздо ў Адэсе». Усе групоўкі радыкалаў, кшталту адэскай «Самаабароны» або «Правага сектара», даўно знаходзяцца пад кантролем экс-рэгіянала мэра Труханава. Я не ведаю дакладна, нашто яму патрэбны кішэнны сілавы блок, аднак відавочна, што гэта дадае яму саліднасці ў супрацьстаянні з губернатарам вобласці.




Фота www.catholicherald.co.uk

# Застаемся! Застаемся!

Алег НОВІКАЎ

**На фоне выкліканага Brexit крызісу традыцыйных партый Вялікабрытаніі, сярод праеўрапейскіх брытанцаў набірае папулярнасць ідэя стварэння сваёй «Еўрапейскай партыі».**

Шмат каму ў свеце глянулася вокладка апошняга выпуску вядомага часопіса «Economist» — выява брытанскага ўрадавага квартала з подпісам «Anarchy in UK» (англ.: «Анархія ў Аб'яднаным каралеўстве»). «Anarchy in UK» — так у свой час называўся альбом гурта «Sex Pistols», піянераў стылю панк, які, як вядома, прапагандуе анархію, хаос і беспарадак. Менавіта хаос — галоўны маркер атмасферы Брытаніі пасля Brexit.

Справа не толькі ў тым, што пасля 23 чэрвеня рэзка праселі эканамічныя індыкатары і назіраецца праравы ступар праз незразумеласць будучай формулы адносін краіны і Еўрасаюзу. У стане раздраю знаходзіцца і мясцовая партыйная сцэна.

Хаця кіраўніцтва абедзвюх вядучых партый выступала за еўрапейскую прапіску Брытаніі, на выхадзе высветлілася, што партактыў думаў інакш. Прынамсі, кожны трэці лейбарыст і большасць сябраў кансерватараў абралі ў бюлетэні для галасавання пункт «Leave» (англ.: «сысці»).

Не дзіўна, што вынікі галасавання сталі сапраўднай апляухай па прэстыжы партыйных правадыроў. Пра хуткую адстаўку адразу заявіў лідар торы і прэм'ер краіны Дэвід Кэмеран. Спачатку лічылася, што яго пераемнікам будзе экс-мэр Лондану, палымяны прыхільнік Brexit Борыс Джонсан. Аднак той адмовіўся ад партыйнага лідарства.

На сёння фаварытам лічацца кіраўніца МУС Брытаніі Тэрэза Мэй. У першым туры яна перамагла з відавочнай перавагай, атрымаўшы 165 з 330 галасоў дэпутатаў-кансэрватараў. Міністр энергетыкі Андрэа Лідсам пакуль на другім месцы: яе падтрымалі 66 заканадаўцаў. Трэцяе месца з 48 галасамі засталося за міністрам юстыцыі Майклам Гоўв. Стывен Крэб, міністр працы і пенсій, заняў чацвёртае месца, заручыўшыся падтрымкай усяго 34 дэпутатаў, і вырашыў спыніць барацьбу. Імя пераможцы будзе вядомае 9 верасня.

Дамоклаў меч навіс і над правадыром лейбарыстаў Джэрэмі Корбінам. Апошні, праўда, не вельмі свяціўся ў кампаніі «За ЕС». Аднак унутрыпартыйная правая апазіцыя выкарыстала глабальны катаклізм, каб атакаваць Корбіна, які карыстаецца іміджам радыкальнага левага. Большасць фракцыі ў Палаце абшчыны прагаласавала за змену лідара. Адначасова ўдзельнікамі партыйнага путчу была прапанаваная кандыдатура новага партыйнага правадыра — Анжэла Ігл.

Пры гэтым ні Корбін, ні Ігл, ні патэнцыйныя лідары партыі торы ў прынцыпе не збіраюцца аспрэчваць вынікі галасавання 23 чэрвеня. У лепшым выпадку гаворка ідзе пра тое, каб захаваць прэферэнцыі для брытанскіх вытворцаў на рынках ЕС і «ўлічыць настроі» еўрафілаў. Зараз дамінуе думка, што Brexit — гэта голас народу, і адваротнага шляху няма.

Аднак так не лічаць шматлікія прыхільнікі ЕС. Пачынаючы з 23 чэрвеня ў краіне працягваюцца пратэсты, якія маюць на мэце затармазіць выхад краіны з Еўрасаюза. Тут і петыцыя з заклікам да парламентарыяў абвясціць новы рэферэндум, якую падпісалі каля трох мільёнаў грамадзян. І масавая дэманстрацыя ў цэнтры сталіцы. І цiск выбаршчыкаў на сваіх дэпутатаў з патрабаваннем правесці галасаванне ў парламенце, каб заблакаваць працэс выхаду з ЕС. І калектыўныя заявы-пратэсты бізнесоўцаў і юрыстаў, якія знайшлі ў Brexit безліч парушэнняў заканадаўства.

Актыўнасць тых, хто выступае з пазіцыі «Remain» (англ.: «застацца»), мае КПД. Паводле апытанняў BBC, зараз 16 працэнтаў брытанцаў вераць у тое, што Brexit вось-вось адменяць. Яшчэ 22 працэнты сумняваюцца ў тым, што Вялікабрытанія сапраўды апынецца па-за межамі ЕС.

Удзельнікамі і часам нават аўтарамі апісаных акцый ёсць сябры вядучых партый, аднак не іх кіраўнікі. Як следства, сярод еўрафілаў паўстае заканамернае пытанне: ці не стварыць сваю партыю, якая будзе патрабаваць вяртання Альбіёну ў Еўропу?

На цяперашні момант рух праціўнікаў Brexit фармуецца вакол шэрагу грамадскіх кампаній, што дзейнічалі падчас падрыхтоўкі да плебісцыту. Таксама існуе шырокі фронт лакальных ініцыятыў, накшталт «студэнты за ЕС» ці «артысты за ЕС» і гэтак далей. Як правіла, менавіта сярод іх актывістаў і агучваецца ідэя стварэння новай партыі. Сваім гуру еўрафілы лічаць Энтані Грэйлінга, оксфардскага прафесара, папулярнага філосафа, паслядоўнага крытыка Brexit.

Хутчэй за ўсё, да з'яўлення новага суб'екта на брытанскай палітсцэне справе не дойдзе. Бо ўжо ёсць даволі раскручаная праеўрапейская структура ў выглядзе партыі ліберал-дэмакратаў. Яе старшыня Нік Клег заклікаў да таго, каб канчатковаму рашэнню парламента пра выхад з ЕС папярэднічалі пазатэрміновыя выбары. Праўда, ліберал-дэмакраты маюць не вельмі пазітыўны імідж сярод шараговых еўраэнтузіястаў, якія памятаюць, як Клег быў міністрам у кабінеце таго самага Дэвіда Кэмерана, які адкрыў скрыню Пандоры — запусціў Brexit у брытанскую палітычную дыскусію.

Не выключаны і варыянт расколу ў шэрагах традыцыйных партый на еўрафобаў і еўрафілаў, да якіх могуць далучыцца цяперашнія праціўнікі Brexit. Найбольш крытычная сітуацыя ў лейбарыстаў. Па-першае, тут ёсць адпаведны прэцэдэнт. Напачатку 1980-х гадоў, калі партыйны кіраваў ідэйны двайнік Корбіна, правая фракцыя паклала партбілеты на стол, каб заснаваць сваю сацыял-дэмакратычную партыю. Па-другое, суполкі лейбарыстаў геаграфічна выразна падзеленыя па прынцыпу «за ЕС» і «супраць ЕС». Правінцыя галасавала «за», а сталіца — наадварот. Пакуль не зразумела, як антаганісты знойдуць кансенсус — асабліва з улікам крызісу кіраўніцтва.

Некаторыя еўрафілы, асабліва маладыя, лічаць, што брытанскі рух за Еўропу — праект абнаўлення краіны, дэмакратызацыі партыйнага жыцця. Цікава, што менавіта з такіх пазіцый часта крытыкуюць ЕС.

Застаецца дадаць, што ў Еўропе, паводле Сяргея Станішава, лідара фракцыі сацыялістаў у Еўрапарламенце, уважліва назіраюць за працэсамі ў Вялікабрытаніі і зацікаўлены ў стварэнні моцнага руху прыхільнікаў адзінай Еўропы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Лінас Лінкявічус



Міністр замежных спраў Літвы накіраваў у МУС Злучанага Каралеўства ліст, у якім выказвае занепакоенасць з-за росту нападаў на мігрантаў, якія колькасна выраслі пасля таго, як жыхары Вялікабрытаніі прагаласавалі за выхад ЕС на рэферэндуме. Дастаецца падчас такіх нападаў і літоўцам, якіх на тэрыторыі Альбіёну каля ста тысяч.

Так, вялікі рэзананс выклікала бойка 3 ліпеня пад Манчэстэрам, дзе быў збіты 12-гадовы літоўскі школьнік. Прычынай здзекаў стала яго нацыянальная прыналежнасць. Кіраўніца літоўскай абшчыны ў Вялікабрытаніі адзначыла, што тое, што адбылося, — не рэдкасць пасля Brexit: «Стала больш праяў ускоснай агрэсіі, то бок дзяцей у школе ігнаруюць, настаўнікі ўжываюць на іх адрас больш жорсткія правілы за тое, што яны — з краін ЕС».

У сваім лісце на адрас брытанскіх паліцэйскіх Лінкявічус спадзяецца, што «намаганні Вялікабрытаніі па прадухіленні такіх выпадаў дадуць вынік, і ксенафобскія настроі ў краіне не будуць распаўсюджвацца». Праўда, побытавае хуліганства — гэта дробязь з улікам таго, што сярод часткі брытанцаў папулярная ідэя пазбаўлення мігрантаў з Усходняй Еўропы права на працу на Альбіёне. Рэалізацыя такога сцэнару пагражае ростам сацыяльна-эканамічнай напружанасці ў Літве.

### Мішэль Ракард



Былы французскі прэм'ер-міністр, адзін з лідараў Сацыялістычнай партыі, памёр 2 ліпеня. Ягоная смерць стала агульнанацыянальнай падзеяй, параўнальнай з турнірам «Еўра–2016».

Мішэль Ракард быў адным з архітэктараў сучаснай Францыі. Дзякуючы яму ў 70-я гады аб'ядналіся раздробленыя французскія сацыялісты, што дазволіла забраць у камуністаў статус першай левай партыі ў Францыі. Адначасова Ракард мадэрнізаваў праграму Сацпартыі — канцэпцыя «Другія левыя» зрабіла яе прывабнай для не толькі для працоўных, аднак і для сярэдняга француза. Нарэшце, ахвяраваўшы асабістымі амбіцыямі, ён пагадзіўся на тое, каб кандыдатам на прэзідэнцкія выбары 1981 года стаў яго стары асабісты апанент Франсуа Мітэран, якога і абралі прэзідэнтам.

Пры Мітэране Ракард займаў шэраг важных пасадаў, у тым ліку пасаду кіраўніка ўраду. Лічылася, што менавіта ён стане пераемнікам Мітэрана на пасадзе прэзідэнта. Перад тым, як пайсці з палітыкі ў 90-я гады, Мішэль быў дэпутатам Еўрапарламента і партыйным функцыянерам.

Цікава, што ў апошніх інтэрв'ю нябожчык моцна крытыкаваў цяперашніх французскіх левых за акцыі пратэсту супраць лібералізацыі працоўнага кодэкса. Па яго словах, левыя Францыі сталі «рэтраградамі» замест таго, каб быць маторам грамадскіх пераменаў.

### Рыгор Яўлінскі



Лідар расійскай апазіцыйнай сацыял-ліберальнай партыі «Яблоко» прадставіў праект выбарчага спісу партыі на вераснёўскія думскія выбары. На думку прэсы, склад спісу канчаткова засведчыў, што партыя Яўлінскага вяртае сабе імя галоўнай апазіцыйнай палітсілы ў Расіі, — прынамсі, на гэтых выбарах.

У агульнафедэральнай частцы спісу, акрамя Яўлінскага, мяркуючы па праекце, апынуцца старшыня «Яблоко» Эмілія Слабунова, экс-мэр Петразаводска Галіна Шыршына, лідар пскоўскага аддзялення Леў Шлосберг, палітык Уладзімір Рыжкоў, кіраўнік маскоўскага аддзялення Сяргей Мітрохін, дэпутат Дзярждумы Дзмітрый Гудкоў... Усе агучаныя персоны маюць досвед заканадаўчай і адміністратыўнай працы, што стварае партыі пазітыўны імідж. Магчыма таму патрыятычныя медыя пачалі спекуляцыі наконт таго, што ў выпадку праходу ў Думу «Яблока» будзе ставіцца пытанне аб вяртанні Крыма ў склад Украіны праз мірны перамоўны працэс.

Эксперты даюць партыі «Яблоко» каля 5–7 працэнтаў галасоў. Таксама ходзяць плёткі, што Пуцін зацікаўлены, каб Яўлінскі прайшоў у Думу — дзеля піяру свайго рэжыму на Захадзе. Новая формула выбараў у Думу, калі палова дэпутатаў абіраецца па мажарытарнай схеме, фактычна і так забяспечвае Крамлю лаяльную парламенцкую большасць.

# Як гэта было: Выбары першага

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Дваццаць два гады таму, 10 ліпеня 1994 года, адбыўся другі тур прэзідэнцкіх выбараў, у выніку чаго краіна атрымала першага прэзідэнта.**

Амаль чатыры гады, падчас распрацоўкі праекта новай беларускай Канстытуцыі сярод заканадаўцаў вяліся вострыя дыскусіі наконт таго, ці патрэбны прэзідэнт увогуле, а калі патрэбны, то які: «слабы» ці «моцны». Дарэчы, большасць грамадзян пры абмеркаванні праекта Асноўнага закона ў сваіх лістах на адрас Канстытуцыйнай камісіі выказвалася супраць пасады прэзідэнта. Аднак паводле Канстытуцыі 15 сакавіка 1994 года гэтая пасада была ўведзена, пры гэтым у прэзідэнта былі даволі шырокія паўнамоцтвы.


НАРОДУ—НАРОДНОГО ЛИДЕРА

Знаю—Вас долго обманывали.
Знаю—Вы устали верить.
Я не прошу у Вас президентский портфель.
Я хочу вернуть Вам веру в будущее.
Подумайте о судьбе Ваших детей.
Я хочу зажечь хотя бы маленький свет в конце тоннеля, свет надежды в Ваших измученных сердцах.

А. Лукашенко

АЛЕКСАНДР ГРИГОРЬЕВИЧ ЛУКАШЕНКО—белорус. Уроженец Шкловского района Могилевской области. Возраст—39 лет. Женат, двое сыновей.

Имеет два высших образования: гуманитарное (историк) и специальное экономическое.

Был учителем, пять лет служил в армии (начинал рядовым в погранвойсках, сегодня, майор запаса), два года работал заместителем руководителя промышленного предприятия, десять лет отдал сельскому хозяйству.

Работая на селе, Александр Григорьевич сумел дать возможность крестьянину почувствовать себя хозяином земли.

В 1990 году Александра Лукашенко избрали народным депутатом БССР. За четыре года активной работы в Верховном Совете ему пришлось нелегко, так как он не отказывался от своих принципов и не забывал о народе.

Природный талант, аналитический ум и умение предвидеть последствия решений позволяют Александру Лукашенко быть всегда на шаг впереди как своих коллег депутатов, так и правительства. Единственный из всех депутатов он проголосовал против Беловежских соглашений.

Возглавив Комиссию по борьбе с коррупцией, он не согнулся перед натиском, а пытается вырвать наше общество из цепких объятий мафии. Всеми доступными способами Александр Лукашенко сегодня продолжает борьбу.

И разрушая зло, он созидает добро.

23 июня 1994 года Вы будете выбирать первого Президента Беларуси.

ПОСОВЕТУЙТЕСЬ С СОВЕСТЬЮ
И СДЕЛАЙТЕ СВОЙ ВЫБОР!

БУТ З. 4747 Т. 200000

**Перадвыбарная ўлётка Аляксандра Лукашэнкі**

## Працэдура вылучэння

Абранне першага прэзідэнта павінна было прайсці паводле адпаведнага закона ад 29 сакавіка 1994 года «Аб выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Прынцыповыя яго палажэнні былі ўзяты з Канстытуцыі. На шляху будучых кандыдатаў стаяла галоўная перашкода: збор не менш 100 тысяч подпісаў грамадзянаў, альбо не менш 70 аўтографаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Вырашыць такую задачу было рэальна вельмі вядомаму прэтэндэнту на вышэйшую пасаду, альбо таму, каго падтрымаюць моцныя фінансавыя і арганізацыйныя структуры.

30 сакавіка 1994 года спецыяльнай пастановай Вярхоўны Савет прызначыў выбары на 23 чэрвеня 1994 года. Патрабаванні Апазіцыі БНФ аб правядзенні ў першую чаргу парламенцкіх выбараў былі адхіленыя парламенцкай большасцю.

Пра свае прэзідэнцкія амбіцыі загаварылі многія палітыкі і дзеячы. Галоўным фаварытам будучай кампаніі лічыўся старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч.

Паводле закона, для збору подпісаў ствараліся адпаведныя ініцыятыўныя групы колькасцю не менш за 30 чалавек. Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў 19 такіх груп. Як і чакалася, найвялікшай апынулася ініцыятыўная група прэм'ер-міністра: яна налічвала 3920 чалавек. Найменшай па колькасці — 88 чалавек — была ініцыятыўная група беспрацоўнага сталічнага жыхара Сяргея Ліцкевіча.

Ініцыятыўную групу спрабаваў зарэгістраваць грамадзянін Польшчы беларускага паходжання граф Аляксандр Прушынскі. Аднак 7 красавіка 1994 года за парушэнне статусу знаходжання замежных грамадзян на тэрыторыі Беларусі ён быў затрыманы, змешчаны ў следчы ізалятар, а затым высланы з краіны.

На збор подпісаў адводзіўся даволі сціслы тэрмін — з 25 красавіка па 15 мая. Патэнцыйныя кандыдаты зрабілі стаўку на родныя пенаты: асноўныя высілкі ініцыятыўных груп накіроўваліся ў вобласць, адкуль паходзіў той ці іншы кандыдат. У гэтым сэнсе цікавы казус адбыўся з Аляксандрам Лукашэнкам. У перадвыбарчых улётках кандыдата пазначалася, што ён — ураджэнец Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці. Аднак высветлілася, што афіцыйнае месца нараджэння будучага прэзідэнта іншае. Падчас «прамой лініі» з чытачамі «Народнай газеты» Лукашэнка растлумачыў, што на Шклоўшчыне пражыў усё жыццё, але нарадзіўся на Аршаншчыне.

У выніку 31 мая 1994 года Цэнтрвыбаркам, які на той час узначальваў Аляксандр Абрамовіч, зарэгістраваў наступных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта: прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч (371 967 подпісаў), прадстаўнік камуністаў Васіль Новікаў (183 836 подпісаў), прадстаўнік аграрнай партыі і старшыня Савета калгасаў Беларусі Аляксандр Дубко (116 693 подпісы), дэпутат Вярхоўнага Савета, дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці Аляксандр Лукашэнка (156 391 подпіс), былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч (123 552 подпісы) і дэпутат Вярхоўнага Савета лідар БНФ, Зянон Пазняк (216 855 подпісаў).

У ходзе праверкі сапраўднасці подпісаў Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў не зарэгістравала кандыдатуру старшыні гарвыканкама Маладзечна, дэпутата Вярхоўнага Савета XII склікання Генадзя Карпенкі. Тыя дэпутаты (гаворка ідзе пра групу БСДГ у Вярхоўным Савеце на чале з Алегам Трусавым), якія вылучылі Карпенку, зрабілі стаўку на Станіслава Шушкевіча, адклікалі свае подпісы за маладзечанскага кіраўніка. А неабходная колькасць подпісаў грамадзян не была сабраная. Урэшце, сам Генадзь Карпенка зняў сваю кандыдатуру. Неўзабаве ў прэсе прайшла інфармацыя, што ён далучыўся да групы Зянона Пазняка.

## Праграмы кандыдатаў

Кожны з кандыдатаў меў сваю праграму, у якой выказваў уласнае бачання далейшага развіцця краіны. Пры ўсёй умоўнасці, гэтых кандыдатаў паводле іх праграмных установак можна падзяліць на «левых» і «правых». Да першых можна аднесці Вячаслава Кебіча, Аляксандра Дубко, Аляксандра Лукашэнку і Васіля Новікава.

Прэм'ер-міністр, напрыклад, заклікаў разам пабудаваць утульны беларускі дом, абвяшчаў саюз з Расіяй выратаваннем ад усіх нягодаў. Выратавальным Кебіч лічыў падпісаны ім 12 красавіка 1994 года разам з расійскім калегам Віктарам Чарнамырдзіным Дагавор аб аб'яднанні грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь і грашовай сістэмы Расійскай Федэрацыі і ўмовах функцыянавання адзінай грашовай сістэмы. Тэарэтычна, дакумент прадугледжваў увядзенне на тэрыторыі абедзвюх краін адзінага плацежнага сродку — расійскага рубля, прычым абменны курс, прапісаны ў дагаворы, быў выгадны беларусам, улічваючы няўстойлівасць беларускага рубля і высокія тэмпы інфляцыі ў Беларусі. Наяўныя грошы беларускіх грамадзян у суме да 200 тысяч разліковых білетаў, а таксама іх банкаўскія ўклады да 1 мільёна разліковых білетаў абменьваліся па курсе 1:1.

За пяць дзён да выбараў Вячаслаў Кебіч надрукаваў у «Народнай газеце» праграмны артыкул «Беларусь: праблемы мадэрнізацыі (адказ апанентам)». Артыкул быў наскрозь працяты ідэяй саюза з Расіяй, які прэм'ер-міністр абвясціў уласным «маральным крэда». Разважаючы пра перспектывы Беларусі, Кебіч прапанаваў для яе адраджэння новую ідэалогію ў выглядзе трыяды: дзяржаўнасць, патрыятызм, духоўнасць.

Аляксандр Лукашэнка галоўным перадвыбарным лозунгам абвясціў барацьбу з карупцыяй, што было лагічным: у чэрвені 1993 года дэпутат узначаліў часовую камісію Вярхоўнага Савета па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання. У снежні 1993 года ён агучыў выніковы даклад працы камісіі і адразу стаў яшчэ больш знакамітым.

Аляксандр Дубко лічыў, што ў краіне павінен быць адзін гаспадар, што заработная плата павінна быць такой, каб муж змог без праблем утрымліваць жонку і яшчэ чацвёра дзяцей. У перспектыве вызначалася «сфармаваць сялянства і іншых работнікаў аграпрамысловага комплексу ў самастойную палітычную сілу».

Галоўны лозунг Васіля Новікава палягаў у тым, каб вярнуць народу тое, што ў яго забралі. Новікаў называў Вярхоўны Савет Беларусі XII склікання парламентам буржуазнай рэстаўрацыі, а таксама абяцаў, што ў выпадку абрання яго прэзідэнтам дзяржаўная сімволіка краіны (бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня») будзе замененая.

У цэлым праграмы «левых» кандыдатаў зводзіліся, па сутнасці, да рэанімацыі асноўных кампанентаў савецкай кіраўніцкай, эканамічнай і сацыяльнай мадэлі. У шэрагу месцаў праграм праглядаліся адкрытыя дэкларатыўнасць і папулізм, спробы сумясціць несумяшчальнае, прасочваліся моманты, якія супярэчаць не толькі палітычным і эканамічным законам, але і здароваму сэнсу. Праграмы не былі разлічаныя на доўгатэрміновую перспектыву, а прапаноўвалі прымітыўны сацыяльны набор. Ніякіх глыбокіх і канкрэтных рэформаў не прапаноўвалася: як галоўная ўмова выхаду з крызісу падаваўся саюз з Расіяй. Прыватызацыя згадвалася толькі як прыдатак, а не аснова рэформаў. Праграмы замацоўвалі спусташальную практыку дзяржаўнай падтрымкі буйных індустрыяльных гігантаў, якія слаба рэагавалі на рынкавыя імпульсы і неэфектыўнай калгасна-саўгаснай сістэмы. Рашэнне аграрнай праблемы дасягалася выключна за кошт парытэту цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю. Рашэнню чарнобыльскай праблемы і развіццю нацыянальнай культуры адводзілася ледзь не апошняе месца.

Праграмы Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча, наадварот, прадугледжвалі запуск рынкавых механізмаў, прыватызацыю, развіццё прадпрымальніцтва і фермерства. Абодва кандыдата слушна звярталі ўвагу на энергетычную звышзалежнасць Беларусі ад Расіі, але па-свойму бачылі вырашэнне пытання. На думку Шушкевіча, карысным было б фарміраванне на тэрыторыі СНД агульнага мытнага і плацежнага саюза і забеспячэнне свабоднага перамяшчэння праз межы працоўных, матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў. Пазьняк займаў радыкальную пазіцыю, якая была агучана ў адпаведным артыкуле «Аб рускім імперыялізме і яго небяспецы», апублікаваным у «Народнай газеце» ў студзені 1994 года. На думку лідара БНФ, Беларусі неабходна было дыстанцыявацца ад Расіі, выйсці з СНД і ўзяць удзел у будаўніцтве нафтавага Балта-Чарнаморскага калектара.

Некаторыя перадвыбарчыя ідэі Зянона Пазьняка зараз выглядаць слушнымі і актуальнымі. Так, лідар БНФ у гэтым артыкуле адзначаў, што першае права на працоўнае месца павінна належыць беларусу, а не таннаму азіяту альбо карупцыянеру з поўдня. У сваёй праграме Пазьняк прапанаваў тое, аб чым сёння актыўна гавораць улады: рэалізацыю дзяржаўнай праграмы развіцця чорнай, каляровай і рэдказямельнай металургіі.

Пазіцыі Пазняка істотна падарвалі яго антырасійскія выпады і антыкамуністычныя погляды. Лідар БНФ абвясціў, што ў выпадку яго перамогі на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі будзе ўведзены закон аб люстрацыі. І хаця Пазьняк і яго аднадумцы пераконвалі насельніцтва ў тым, што люстрацыя закране толькі кіруючых работнікаў КПСС-КПБ, многія выбаршчыкі — былыя члены кампартыі — успрынялі такую перспектыву як асабістую




**Перадвыбарны плакат Вячаслава Кебіча**

# прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

пагрозу. Зянон Пазьняк і яго асяроддзе адчулі, што іх электарат можа значна звузіцца па прычыне радыкальнай рыторыкі. Таму напярэдадні выбараў была выпушчаная лістоўка са шматабяцальнай назвай «Чаго не будзе рабіць Зянон». У ёй гаварылася, што Пазьняк не будзе нікога прымушаць размаўляць па-беларуску, пераследаваць былых камуністаў, разганяць калгасы, разрываць эканамічныя сувязі з Расіяй і іншае. Аднак у вачах большасці выбаршчыкаў Зянон Пазьняк набыў імідж ворага рускага народа і заўзятага нацыяналіста, прыхільніка «крутых» захадаў, што, безумоўна, адбілася на выніках выбараў. Не на карысць Зянона.

Што да Станіслава Шушкевіча, то трэба адзначыць некаторыя асаблівасці яго праграмы. Былы кіраўнік парламента канкрэтна пазначыў этапы эканамічных рэформаў: зніжэнне да канца 1994 года тэмпаў інфляцыі да 7–10% у месяц, стабілізацыя на працягу 1995 года і эканамічны ўздым ад 1996 года. Іншай асаблівасцю праграмы кандыдата стала ідэя моцнай эфектыўнай дзяржавы («як пабудаваць дзяржаву для чалавека»), якая арганізуе і парадкуе адносіны ў эканоміцы, сацыяльнай сферы. Пэўнае месца адводзілася дзяржаўнай палітыцы ў духоўным жыцці. Яна была закліканая падтрымліваць і паважаць беларускую гісторыю, унікальную беларускую культуру, абараняць нацыянальныя традыцыі, захоўваць маральныя каштоўнасці.

## Выбарчая агітацыя

У ходзе выбараў мела месца такая з'ява, якую на сучаснай мове называюць «чорным піярам». Яскравым прыкладам у гэтых адносінах стаў нашумелы артыкул «Беларусь цяжарная першым прэзідэнтам. Хто ім стане?» за подпісам галандскага журналіста А. Ван-Берста, апублікаваны 14 чэрвеня 1994 года ў вядучых рэспубліканскіх выданнях. У артыкуле даваліся негатыўныя характарыстыкі ўсім кандыдатам за выключэннем Вячаслава Кебіча, якога параўноўвалі з Пятром Машэравым. Аўтар артыкула сцвярджаў, што Кебіч валодае здольнасцю стратэгічнага бачання праблемы, яго хады і дзеянні дакладна пралічаныя.

Неўзабаве высветлілася, што гэты артыкул — звычайная фальшыўка, як зараз кажуць «фэйк». У мемуарах Кебіч прызнаўся, што скандальны артыкул быў створаны членам яго перадвыбарнага штаба, прэс-сакратаром Савета Міністраў Уладзімірам Замяталіным.

Прыкладам піяру, безумоўна, стаў выпадак з затрыманнем на Браслаўскай мытні грузавіка, які ішоў з Ганновера транзітам праз Латвію з друкаванай прадукцыяй — каляровымі плакатамі і буклетамі з выявай кандыдата Аляксандра Лукашэнкі ў колькасці 316 000 экземпляраў на суму ў 123 млн. 272 тыс. руб. З-за адсутнасці неабходных дакументаў груз быў затрыманы, а пракуратура пачала разбіральніцтва.

Аляксандр Лукашэнка і яго прыхільнікі рашуча адхрысціліся ад плакатаў і ад усякай фінансавай дапамогі звонку. Сітуацыя з плакатамі вырашылася на карысць кандыдата. Генеральны пракурор Васіль Шаладонаў выступіў з тлумачэннем і праінфармаваў грамадскасць аб тым, што плакаты былі выраблены па замове адной са сталічных фірмаў з кідкай назвай «Жоўтыя старонкі». Яе ўладальнік прызнаўся, што даў замовы на буклеты і плакаты без якой-небудзь дамоўленасці з Аляксандрам Лукашэнкам, а выключна па прычыне таго, што падзяляе праграмныя ўстаноўкі кандыдата.

Прыкладам піяру, безумоўна, стаў «лёзненскі інцыдэнт» — стральба па машыне Аляксандра Лукашэнкі ў ноч з 16 на 17 чэрвеня 1994 года пад Лёзнам Віцебскай вобласці. Гэта спарадзіла кардынальна супрацьлеглыя версіі. Каманда Лукашэнкі сцвярджала, што мела месца спроба фізічнага забойства кандыдата. Толькі цуд, даказвалі прыхільнікі кандыдата, выратаваў яго ад гібелі. Праціўнікі Лукашэнкі абвінавацілі дэпутата ў інсцэніроўцы ўласнага замаху з мэтай узняцця перадвыбарчага рэйтынгу. Прэм'ер-міністр, напрыклад, лічыў, што за гэтым стаяць Віктар Ганчар і Дзмітрый Булахаў, якім нібыта адмовілі ў высокіх пасадах ва ўрадзе.

Даказаць датычнасць Лукашэнкі і членаў яго каманды да стральбы па машыне не ўдалося. Так, 19 чэрвеня 1996 года пры абмеркаванні інцыдэнту ў сувязі з абстрэлам міліцэйскім патрулём машыны Віктара Ганчара дэпутат Генадзь Карпенка спытаў у генеральнага пракурора: «Два гады таму стралялі ў нашага бацьку. Як ідзе справа?» Адказ Васіля Капітана быў несуцяшальным: «Справа прыпыненая, бо не знайшлі стралкоў». Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010 года Лукашэнка сам даў ацэнку інцыдэнту. Паводле яго слоў, у тым далёкім 1994-м проста хацелі «прыстрашыць»: «Калі б захацелі забіць, забілі б».

Ніхто з экспертаў і аналітыкаў не адважваўся з дакладнасцю назваць пераможца выбараў. Аднак у цэлым вымалёўваўся наступны варыянт: ні адзін з кандыдатаў не набярэ пераважнай большасці галасоў, будзе другі тур, у якім, магчыма, з нязначным адрывам пераможа Вячаслаў Кебіч. Аднак 23 чэрвеня, у дзень выбараў, адбылося тое, што пасля назавуць палітычным цудам, — упэўнены адрыў Аляксандра Лукашэнкі, які набраў 45,1% галасоў і стаў безумоўным трыумфатарам. Цікава, што ў Лёзненскім раёне, дзе адбыўся стрэл па аўтамабілі, кандыдат атрымаў 81% галасоў.

На сваёй прэс-канферэнцыі ўкраінскім СМІ 23 лістапада 2006 года Лукашэнка сцвярджаў, што перамог ужо ў першым туры, і што выбары сфальсіфікавалі.

Яго галоўны супернік Вячаслаў Кебіч хоць і прайшоў у другі тур, але ўсё ж з 17,4% галасоў. Не прабіўся ў другі тур Зянон Пазьняк, які набраў 12,9% галасоў. Станіслаў Шушкевіч атрымаў 9,9% галасоў. Паразу пацярпелі Васіль Новікаў і Аляксандр Дубко.




Перадвыбарная ўлётка Васіля Новікава




Перадвыбарны плакат БНФ

Другі тур прэзідэнцкіх выбараў быў прызначаны на 10 ліпеня. У ім канчатковую перамогу таму ці іншаму боку павінны былі прынесці арганізацыйна-палітычныя механізмы барацьбы за выбаршчыкаў.

Напярэдадні другога тура некаторыя СМІ распаўсюдзілі інфармацыю скандальнага характару, якая тычылася Аляксандра Лукашэнкі. Так, у «Народнай газеце» праз два дні пасля першага тура ў артыкуле «Усіх падмануць нельга, нават калі вельмі хочацца» падаваўся наступны эпізод: быццам бы два гады таму Аляксандр Лукашэнка як член дэлегацыі ў Кітай скраў у сцюардэсы лайнера яе некаторыя асабістыя рэчы. Гэта настолькі ўзбудзіла грамадскасць, што Вячаслаў Кебіч на прэс-канферэнцыі 27 чэрвеня вымушаны быў даць адказ на гэта пытанне. Па словах прэм'ер-міністра, ён нічога не чуў пра інцыдэнт са сцюардэсай.

Сам Аляксандр Лукашэнка адхіліў усе абвінавачанні, але ніякіх прэтэнзій у судовым парадку да сцюардэсы і да СМІ не меў.

Затое Лукашэнка напярэдадні другога тура ўступіў у сапраўдную вайну ажно супраць абодвух сілавых структураў: Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства абароны.

28 чэрвеня адбылося сутыкненне Аляксандра Лукашэнкі і яго паплечнікаў, якія накіроўваліся ў рабочы кабінет апячатанай часовай «антыкарупцыйнай» камісіі з ахоўвай Дома Урада, у выніку чаго «кандыдату ў прэзідэнты парвалі пінжак, запэцкалі штаны і нанеслі цялесныя пашкоджанні ў вобласці кісцей рук». У заяве Аляксандра Лукашэнкі, Леаніда Сініцына, Івана Ціцянкова і Віктара Кучынскага сцвярджалася, што інцыдэнт справакаваны міністрам унутраных спраў Уладзімірам Данько. Сам кандыдат напісаў асобную заяву на імя генеральнага пракурора Васіля Шаладонава. У заяве гаварылася пра тое, што «чацвёра супрацоўнікаў спрабавалі адкінуць» Аляксандра Лукашэнку «ад дзвярэй», «парвалі пінжак, ударылі нагой у левы бок».

У сваю чаргу, у спецыяльнай заяве прэс-службы міністэрства сцвярджалася, што Аляксандр Лукашэнка парушыў парадак уваходу ў апячатанае памяшканне, расштурхаў міліцыянтаў, у аднаго з якіх «адарваныя гузікі, надарваны пагоны, пашкоджана форменная куртка». У заяве абвяргалася інфармацыя аб гвалтоўных дзеяннях у дачыненні да Аляксандра Лукашэнкі з боку міліцыянтаў.

30 чэрвеня міністр абароны Павел Казлоўскі, ідавочна ўзгадніўшы гэта з Вячаславам Кебічам, сабраў прэс-канферэнцыю, на якой абвінаваціў Лукашэнку ў нападках на войска, на генералітэт. Неўзабаве Казлоўскі падаў адпаведныя заявы ў Вярхоўны Савет, Генеральную пракуратуру і іск у суд, на пасяджэнне якога Лукашэнка дэманстратыўна не з'явіўся.

## Другі тур выбараў

Напярэдадні другога тура прэзідэнцкіх выбараў, Аляксандр Лукашэнка зрабіў два моцныя палітычныя крокі, якія істотна ўмацавалі яго становішча і пашырылі колькасць яго выбаршчыкаў. Па-першае, у пачатку ліпеня 1994-га ён сустрэўся з работнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі і паабяцаў і не праводзіць ніякіх чыстак пад выглядам рэформаў. Па-другое, 3 ліпеня 1994 года, у дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Лукашэнка прылюдна сустрэўся з Віктарам Чарнамырдзіным і недвухсэнсоўна заявіў СМІ, што знаёмы з расійскім прэм'ерам два гады.

3 ліпеня 1994-га Вячаслаў Кебіч зрабіў, мабыць, самы моцны ход у прэзідэнцкай кампаніі: падпісаў у дзяржаўнай рэзідэнцыі ў Заслаўі Пратакол аб рэалізацыі Дамовы аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі.

Сапраўднай арэнай двубою павінны былі стаць тэледэбаты паміж Вячаславам Кебічам і Аляксандрам Лукашэнкам, прызначаныя на 7 ліпеня 1994-га.

У ходзе тэледэбатаў Лукашэнка больш арыентаваўся на эмацыйны складнік дыскусіі, а Вячаслаў Кебіч спрабаваў выкласці сваю пазіцыю з дапамогай статыстыкі. Аднак псіхалагічная ўстаноўка большасці выбаршчыкаў была накіравана супраць прэм'ера. Любы разумны аргумент Кебіча паварочваўся супраць яго.

10 ліпеня 1994 года абсалютная большасць выбаршчыкаў, нягледзячы на заклікі многіх палітычных партый і аб'яднанняў ігнараваць выбары, прыйшла на выбарчыя ўчасткі. Аляксандр Лукашэнка атрымаў 80,1% галасоў. Яго супернік істотна знізіў свой вынік у параўнанні з першым турам — 14,1%.

Ацэньваючы першыя прэзідэнцкія выбары, неабходна адзначыць своеасаблівы феномен Аляксандра Лукашэнкі, які з'яўляецца прыроджаным палітыкам, здольны тонка адчуваць настроі выбаршчыкаў. Феномен Лукашэнкі — яркі прыклад таго, як у чалавека могуць праявіцца якасці, гэтак неабходныя для палітычнай барацьбы і дзейнасці. Аднак, па-першае, гэтыя якасці наўрад ці маглі праявіцца ў Аляксандра Лукашэнкі ў поўнай меры і дайсці да выбаршчыкаў, каб ён не быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання. Па-другое, мільёны беларусаў убачылі Аляксандра Лукашэнку і паверылі яму ў якасці альтэрнатывы той грамадскай сістэме, рэсурсы якой апынуліся вычарпанымі, толькі дзякуючы свабодным сродкам масавай інфармацыі.

# Што яшчэ наведаць у ліпені

**Не толькі ў Мінску можна годна правесці вольны час.**

12 ліпеня ў вёсцы Шыпілавічы Любанскага раёна адбудзецца Пятроўскі фэст. Пад вечар удзельнікі пройдуць з традыцыйнымі песнямі і карагодамі па вуліцах, будуць скакаць праз вогнішча і есці юшку, якую гатуюць у гонар таго, што Пётр, па біблейскім паданні, быў рыбаком. Удзень плануецца невялічкі кірмаш з традыцыйнымі рамёствамі і канцэрт ля сельскага клуба. Фэсту папярэднічае летняя школа традыцыйнай культуры, што стартуе 8 ліпеня. Удзельнікі вучацца традыцыйным танцам Любаншчыны (можна «з нуля»), вандруюць па навакольных вёсках, знаёмяцца з носьбітамі традыцый.

**16 ліпеня** на хутары Шаблі (Малое Запрудзе, Валожынскі раён), пройдзе восьмы па ліку этна-фэстываль «Вольнае паветра».

Сёлета да каманды арганізатараў далучыўся Васіль Грынь, які мае сваю аграсядзібу па суседству з Шаблямі. Васіль — дырэктар турфірмы «Зялёная каманда», сам цудоўны спявак — яго сумесны з Юліяй Літвінавай альбом «палескіх drinking songs» быў летась прэзентаваны на Tuzin.fm. Ён бярэцца стварыць сёлета на фэсце атмасферу беларускага свята першай паловы XX стагоддзя.

Мала хто ведае, што назву фэсту прыдумаў Лявон Вольскі. Першы фэст адбыўся ў Крупках, а потым падзея была перанесена на хутар Шаблі, дзе і адбываецца дагэтуль.

**3 12 да 20 ліпеня** жыхароў і гасцей Віцебска акрамя Славянскага базару чакае выстава прац Марка Шагала (са збору Пскоўскага гісторыка-архітэктурнага музея-запаведніка), Юдаля Пэна, Івана Хруцкага, сучасных сербскіх і славацкіх мастакоў.




У Ратушы можна будзе пабачыць выставы «Insita» (украінскае і рускае наіўнае мастацтва), «Мода з камода» (савецкае адзенне 1940–1970-х), «Віцебск: партрэт на фоне часу» (фотаздымкі з другой паловы XIX стагоддзя да сучаснасці), «Усё жыццё ў адным ровары» (старыя ровары з італьянскай прыватнай калекцыі). Раім таксама зазірнуць на сталую выставу ў Ратушы — «Знаходкі з бабулінага гарышча».

**23 ліпеня** вас чакае фэст сярэднявечнай культуры і музыкі «Наш Грунвальд–2016» у музейным комплексе «Дудуткі».

Цэнтральнае мерапрыемства фестывалю — рэканструкцыя бітвы, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года на пагорыстым поле каля прускага мястэчка Грунвальд, паміж войскамі Тэўтонскага Ордэна і саюзнікаў: Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

Акрамя гістарычнай рэканструкцыі, важны складнік фестывалю — музычны open-air «Пір пасля Бітвы». На сцэну падымуцца калектывы folk / folk-rock / rock / metal і смежных напрамкаў.

Гасцей фестывалю чакаюць рамесны кірмаш, інтэрактыўная зона з забаўкамі для ўсіх узростаў, майстар-класы па сярэднявечных танцах, выступленні фальклорных калектываў, гістарычныя забавы, вогненнае шоў ды шмат іншага!

**Падрыхтавала Алена Ляшкевіч**

# На змену джазу ў Мінск прыходзіць класіка

Арына САНДОВІЧ

**Аўтэнтычныя барочныя інструменты, «свабодны раяль», майстар-клас па кастаньетах, экскурсія па Мінску, інтэрактыўная дзіцячая пляцоўка і цудоўная музыка — далёка не ўвесь спіс, які падрыхтавалі арганізатары фестывалю «Класіка каля Ратушы з velcom».**




Кожную суботу, пачынаючы з 9 ліпеня і па 27 жніўня, усіх жадаючых чакаюць музычныя вечары.

«Класіка можа быць дастаткова папулярным жанрам, — адзначае начальнік упраўлення маркетынгу кампаніі velcom Юлія Дайнека. — У гэтым годзе мы зробім шмат высілкаў, каб наведвальнікам музычных вечароў было больш камфортна атрымліваць асалоду ад канцэртаў. Так, будзе усталявана вялікая інтэрактыўная дзіцячая пляцоўка, на якой з дзеткамі будуць працаваць аніматары адпаведна тэме кожнага мерапрыемства. Каля канцэртнай пляцоўкі размесцяцца некалькі вялікіх экранаў, каб гледачам было зручней сачыць за тым, што адбываецца непасрэдна на сцэне. З'явіцца і паркоўкі для ровараў».

Ужо 9 ліпеня кожны наведвальнік фестывалю зможа даведацца, што ўяўляе сабой 3D-гук, праслухаўшы выступ Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі маэстра Аляксандра Анісімава і ансамбля салістаў «Парціта». Прагучаць творы Моцарта, Гайдна, Штраўса, Гендаля, Вівальдзі, Сальеры, Чайкоўскага, Сібеліўса, Дворжака і іншых.

Са слоў дырэктара Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь Вольгі Цэцэрскай, Аляксандр Анісімаў 4 разы ўносіў змены ў праграму і вельмі далікатна падышоў да гэтага пасля джазавых вечароў, якія яго натхнілі на стварэнне нечага надзвычай цікавага і фундаментальнага.

Дарэчы, перад пачаткам кожнага суботняга вечара а 18 гадзіне каля помніку гарадскому войту будзе стартаваць бясплатная экскурсія, прысвечаная цікавым і малавядомым старонкам з гісторыі Мінска.

Усе наведвальнікі фестывалю змогуць таксама паўдзельнічаць і ў дабрачыннасці. Як распавяла дырэктар міжнароднага фонду «Ідэя» Наталля Куцан, сумесна з Maesens.by яны падчас канцэртаў зладзяць шэраг акцый па падтрымцы і збору сродкаў для цяжка хворых дзетак.

Такім чынам **16 ліпеня** вас чакае «Музычная дуэль Павароці і Сінатры» з удзелам саліста Цюрыхскай оперы, тэнара Паўла Пятрова і барытона Антона Мартынава і MuzzicDom Orchestra пад кіраўніцтвам асістэнта Рыкарда Муці — дырыжора Уладзіміра Авадка. Падчас іх выступу арганізатары замераць моц апладысментаў і вызначаць, каму аддалі перавагу гледачы.

**23 ліпеня** ўсе жадаючыя змогуць перанесціся ў эпоху барока дзякуючы вядомым расійскім музыкам, якія граюць на аўтэнтычных барочных інструментах — скрыпцы, фагоце, габоі.

**30 ліпеня** каля Ратушы будуць адбывацца іспанскія жарсці: класічная і аўтэнтычная музыка гэтага сонечнага краю, і, натуральна, захапляльнае фламенка.

**6 жніўня** варта паслухаць беларускіх музычных вундэркіндаў.

**13 жніўня** чакайце танга, музычныя жарты, музыку савецкага кіно і класіку ў джазе ў «Музычнай гасцёўні Тацяны Старчанка».

**20 жніўня** сімфанічны аркестр Магілёўскай капэлы пад кіраўніцтвам маэстра Херарда Эстрада Марцінеса з Венесуэлы выканае музыку з вядомых фільмаў сучаснасці — «Піраты Карыбскага мора», «Зорныя войны», «Гульні тронаў» і г. д.

Закрыццё фестывалю 27 жніўня будзе прысвечана беларускай музыцы XIX–XX стагоддзяў і асобе Станіслава Манюшкі. Венскую класіку, польскую і беларускую музыку выканае струнны квартэт з Польшчы Altra Volta. Арганізатары абяцаюць, што на канцэрце літаральна зліюцца ў адно класіка і сучаснае танцавальнае мастацтва. А наколькі паспяхова — кожны зможа ацаніць сам!

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 | Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня
Всего
Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанававаць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
ці **атрымаць бясплатна** (8029)666 45 29 (Анатоль)
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

Кошт аднаго месяца падпіскі — **3рублі 20 капеек**, **квартала** — **9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 661

Падпісана да друку 08.07.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.